


ВЫДАВЕЦ РЭДАКЦЫЯ ГАЗЭТЫ «НАША НІВА»
HTTP://MEMBERS.XOOM.COM/NASA_NIVA

# НЕРЭЛІГІЙНАЯ НАЦЫЯ

## Тэма нумару

**Ёсьць заканамернасьць у тым, што, пішучы з нумару ў нумар пра беларускую праўду і крыўду, пра нашы філіі і фобіі, мы міжволі падступаемся да мяжы ўсьвядомленага і патаемнага, калі сэнсы перастаюць разумецца, а могуць толькі адчувацца ў глыбіні душы. Гэта ўжо тая сфэра, дзе пануе не навука, а рэлігія. Пашыранае меркаваньне пра нерэлігійнасьць беларусаў ідэнтычнае думцы пра тое, што беларусаў мала абыходзіць незалежнасьць іхнае краіны. Іншымі словамі, адносіны да Веры і Свабоды супадаюць. І тут адразу згадваецца адказ на пытаньне — а чаму нашыя суседзі — літоўцы або палякі такія ўпартыя ў адстойваньні свае незалежнасьці? Ды таму, што ў іх ніколі, нават у камуністычныя часы, не перарывалася традыцыя касьцёлу. Зь іншага боку атэізм расейцаў і далучаных да іх беларусаў не дапускаў памкненьня да незалежнасьці...**

**Адзін калега ў адказ на такія мае развагі прывёў у прыклад статыстычна нерэлігійныя нацыі старое Эўропы, накшталт галяндцаў або швэдаў. Маўляў, працэнт вернікаў там меншы за працэнт нявернікаў і працягвае зьмяншацца. Але зноў жа гутарка ідзе пра патаемнае, а не пра тое, хто кажа, што Бога няма, а хто — што Бог ёсьць, хто ходзіць у царкву, а хто ня ходзіць. Самы зацяты дэкляраваны атэіст можа ў душы сваёй шчыра верыць і наадварот. Тут як у знакамітым эпізодзе зь фільма Андрэя Таркоўскага «Сталкер». Памятаеце, як Сталкер тлумачыць, чаму Дзікабраз павесіўся? Ён у Зону ішоў за брата прасіць, а яго грашыма заваліла. Бо ў Зоне толькі самыя патаемныя жаданьні збываюцца. Я думаю, што кожны сучасны галяндзец або швэд у працэсе ўзгадваньня абсалютна нясьведама атрымаў і пачуцьцё Бога, і пачуцьцё Свабоды. У выглядзе таго самага патаемнага жаданьня.**

*Працяг на старонцы 8*


здымак Анатоля Клешчука

## ВАЙНА, ВЫГОДНАЯ ЎСІМ

Ці то гэтыя людзі да сёньня ваююць зь немцамі, ці то змагаюцца з амэрыканскім імпэрыялізмам і кітайскім гегеманізмам? — думаеш, чытаючы гнеўныя заявы Саюзу Пісьменьнікаў або калектыву станцыі штучнага абсемяненьня калгасу-камбінату «За мір» з асуджэньнем натаўскіх агрэсараў. Афіцыйная інтэлігенцыя дружна падтрымала афіцыйнага прэзыдэнта і ягоную думку пра неабходнасьць узмацненьня барацьбы за мір. Толькі што апошні разумее пад гэтым эскаляцыю гонкі ўзбраеньняў, нянавісьці да ўсіх «неправаслаўных народаў» і вынішчэньне ўнутраных саюзьнікаў замежных ворагаў, а першая соладка згадвае адказную працу ў Фондзе міру, Камітэце абароны міру, Таварыстве дружбы з замежнымі краінамі і Клюбе інтэрнацыянальнай дружбы імя Садакі Сасакі. Мітрапаліт Філарэт узгадаў, што за вялікі ўклад у справу ўмацаваньня міру яго ў свой час узнагародзілі ордэнам Дружбы Народаў, і таксама выступіў з заявай па Югаславіі. Дзіўнае супадзеньне, — калі расейскія генэралы спрабавалі сьцерці з мапы Джахар-Калу, каб ваенны трыюмф над «чарнаж...пымі» дазволіў засьпіртаванаму Ельцыну захаваць свой пасад на другі тэрмін, дык і NATO партнэрствавала дзеля міру, і мітрапаліт Філарэт, і станцыя абсеменяненьня маўчалі, як вады ў рот набраўшы.

*Працяг на старонцы 4*

# ХРЫСТОС УВАСКРОС!

**Велікоднае пасланьне айца Аляксандра Надсана, апостальскага візытатара для беларусаў-каталікоў Усходняга абраду**

Улетку мінулага году я атрымаў у падарунку крыж, аплецены, быццам цярновымі галінкамі, жорсткай вяроўкай зялёнага колеру, на якой квітнеюць пышныя ружы. Прыслала яго зь Беларусі маці аднаго хлопчыка, які памёр на лейкоз.

Я добра памятаю гэтага мілага і вясёлага хлопчыка, які раней быў у нас на адпачынку разам з групай іншых беларускіх дзяцей. Нішто тады не прадказвала, што ягонае жыцьцё абарвецца так хутка.

*Працяг на старонцы 3*

## ПЕРАЕХАЛА КАМБАЙНАМ

Чэскі пісьменьнік Мілан Кундэра сказаў: «Змаганьне чалавека з уладаю — гэта змаганьне памяці з забыцьцём». Над Беларусяй пануе забыцьцё, бо ўсё дыктуе ўлада. Яшчэ адна славянская сястра можа далучыцца да сям'і, якая ня мае бацькоў і нагадвае фіктыўны шлюб, заключаны дзеля атрыманьня ці ўтрыманьня жытла. Што ёсьць вялікай рызыкай для нашай сінявокай краіны, якая так удала хавае пад навязанай і прынятай рахманасьцяй спароджаны адно эмоцыямі ваярскі дух. Калі я думаю пра магчымыя наступствы рэальнага ўвязваньня Беларусі ў ваенны канфлікт на Балканах, я, халадзеючы, згадваю словы прэзыдэнта Лукашэнкі, сказаныя пад Берасьцейскай крэпасьцю у 1996 годзе — 55-ю гадавіну пачатку чарговай бязьлітаснай для нашай зямлі вайны — «Яны (абаронцы берасьцейскіх муроў) памілі за рускія бярозы...» Змаганьне памяці з забыцьцём. Пераважная думка ў беларускім грамадстве: этнічныя чысткі — кепска, бамбардаваньне — кепска, нас гэтая вайна не павінна тычыцца. Аднак Беларусь у ёй ужо атрымала сваю пэўную ролю. Пакуль што параўнальнагістарычную.

*Працяг на старонцы 4*

**Новая кніга выдавецтва «Наша Ніва»**

Аляксандар Лукашук

## У ФІЯЛЕТАВАЙ НОЧЫ ВУГАЛ КРЫЛА

*Дакумэнтальная проза*



Кніга раскрывае фізыялёгію і норавы савецкай сыстэмы. Працуючы ў галоўнай партыйнай газэце "Звязда", аўтар шмат назіраў за паводзінамі вялікага і малога начальства, а таксама звычайнага «гома савэтыкуса». Падзеі кнігі разгортваюцца за фасадам пампэзнай камуністычнай ідэалёгіі, дзе пануюць амаралізм і п'янства, дзе сплятае свае інтрыгі КГБ і няма свабоды.

**Аляксандар Лукашук** (нар. 1955), працаваў перакладчыкам, журналістам, у дакумэнтальным кіно (Дзяржаўная прэмія за фільм «Дарога на Курапаты», 1994). Аўтар кніг «Зьдзек», «Філістовіч. Вяртаньне нацыяналіста», «За кіпучай чэкісцкай работай» (міжнародная прэмія Беларускага Пэн-Цэнтру, 1998). З 1993 — на Радыё Свабода.




Васіль Быкаў

# БАЙКІ ЖЫЦЬЦЯ

*трыпціх*

**1.СТРАХ**

Самай шаноўнай сьвятыняй у гэтай краіне з часоў векапомнай даўніны быў невялічкі, упрыгожаны маляўнічым росыпісам ды інкрустацыяй керамічны гаршчэчак, у якім захоўваўся Страх.

Страху таго з простых сьмяротных ня бачыў ніхто. Дзень і ноч яго ахоўвалі пяць чалавек сьвятароў і пяць ваяроў, і ўсе ведалі пра яго незвычайную страхавітую сілу. Менавіта з тае прычыны людзі тамтэйшага краю і зваліся страхавітамі. Некалі за керамічны гаршчэчак біліся ў двубоі галоўны сьвятар племя і ягоны супернік — ваяр. Ведама ж, перамог сьвятар, бо ён ужо валодаў Страхам, а ягоны супернік — толькі мячом. Але меч — слабы сродак перад магутным Страхам.

Імя галоўнага сьвятара, які ўзяў на сябе ўсю ўладу ў краіне, было Галабурдахам. Пасьля сваёй перамогі ён яшчэ больш, чым раней, усталяваў культ Страху. Зь ягонага загаду ў самым цэнтры сталічнага паселішча збудавалі мармуровы палац — для яго самога і для Страху. Была створана адмысловая сотня з ваяроў, сьвятароў і таемнікаў, якія дбалі пра бясьпеку Страху і Валадара заадно. Сярод улады і падуладных на той час запанавалі мір і згода, ніхто не адважваўся выступіць супраць Галабурдахама. Ніхто ня мог пра тое нават падумаць — такая вялікая была пераканаўчая сіла Страху. Калі здараліся якія непарадкі ў правінцыях, напрыклад, недабіралі падаткі, туды скіроўвалі ўзброеную каманду, вядома ж, у суправаджэньні магутнага Страху, і падаткаў зьбіралі нават больш, чым было патрэбна. Аднойчы ўзьнік памежны канфлікт з суседняй дзяржавай і пачаліся перамовы, якія трывалі чатырнаццаць тыдняў запар. І ўсё бяз выніку. Тады Валадар Галабурдахам скіраваў туды свайго сілавога міністра са Страхам у вазку. Перамовы хутка скончыліся з посьпехам для страхавітаў.

Правіцелі краіны на чале з мудрым Галабурдахамам вырашылі збудаваць для Страху яшчэ лепшы, надзвычайны архітэктурны ансамбаль побач з ранейшым, які цалкам заняў Валадар. У дзень пераносу Страху ў новую шыкоўную будыніну далі салют з 101 гарматы. Той дзень быў названы Днём Дзяржаўнага Страху — галоўным сьвятам дзяржавы.

Зь цягам часу сама сабою склалася адмысловая нацыянальная ідэалёгія, заснаваная на дактрыне Страху. Усе зьявы і ўчынкі ўспрымаліся і расцэньваліся цяпер паводле старажытных законаў Страху. У філязофіі запанаваў накірунак страхалёгіі, які неўзабаве саступіў месца страхафіліі. Ідэальным грамадзянінам стаў страхавіты грамадзянін, які ўсяго баяўся. Менавіта такі вобраз запанаваў у тэалягічнай літаратуры і мастацтве графіці. Рэлігія страхалюдзтва стала надзвычай папулярнай сярод вернікаў і займалася адкармленьнем іх у духу бязьмежнага, богададзенага Страху. Пабудавалі безьліч храмаў, малельняў і нават даволі добраўпарадкаваных на маляўнічай прыродзе летнішчаў-скітаў з саўнамі. Гэтыя апошнія былі вельмі папулярныя сярод вернікаў усіх саслоўяў ды асабліва — іерархаў. Казалі, з тае прычыны, што ў найбольшай меры адпавядалі патрабаваньням ідэі Страху.

*Працяг на старонцы 13*

## ПАКУЛЬ НЕ СЬЦЯМНЕЛА

Мая родная школа знаходзіцца ў мястэчку Ўручча. Так, так. У тым мястэчку, дзе жыве пісьменьнік Валянцін Акудовіч, дзе ў час слоты з-за туману ня бачна суседняга дому, і дзе тры (ці чатыры) падлеткі зрабілі сабе сьмерць за гэты навучальны год. У нашым мястэчку заўсёды ў тэму будзе гучаць «Лалалала». Пра школу я нічога новага не скажу, але маўчаць таксама ня буду. Кажуць, што любоў да адукацыі залежыць ад настаўнікаў. У нас гэтага дабра не бракуе: ад тых, хто чытае «Нашу Ніву» да тых, хто з імпэтам будзе распавядаць табе пра тэорыі Маркса. Усіх іх яднае адзінае — сымболіка (ну, ведаеце, якая) ў кабінэтах ды страх перад начальствам. Размоваў пра «палітыку» яны ня любяць (апроч старых камунякаў). Дык вось, пра настаўнікаў. Вельмі цікава, чаму яны могуць нас навучыць, якім ідэалам, калі за іх сьпінамі на сьцяне заўсёды вісіць фальшывая сымболіка. Няма ў школе праўды. А можа, і ня трэба журыцца. Хадзілі ж у школу нашыя бацькі, і мы таксама павінны цяпер трываць. А потым настане чарга нашых дзяцей... Часам я прыходзіў са школы, клаў ногі на батарэю ды глядзеў у неба. Пакуль не сьцямнее. Не, гэтая сыстэма даўно ўжо згніла, і яе трэба мяняць.

**Вячаслаў Ціхановіч, Менск**

## ФІЛЬМ УЛ.КОЛАСА Ў ТАРОНТА

Пад час урачыстага сходу беларусаў канадзкай правінцыі Антарыё ў Таронта з нагоды 25 Сакавіка адбылася незвычайная падзея: высьвятленьне фільму Ўладзімера Коласа пра беларускае мастацтва й мастакоў Беларусі.

Старшыня Рады БНР Івонка Сурвіла прадставіла прысутным сп. Коласа. Расказала, што, між іншага, ён быў арганізатарам ды дырэктарам Беларускага Ліцэю ў Менску. А фільм, які мы мелі шчасьце пабачыць, выбраны на Міжнародны Фэстываль Фільмаў аб Мастацтве ў Манрэалі.

Прамаўляў і сп. Уладзімер Колас. Гаварыў ён пра свой фільм, дзякаваў беларускаму грамадзтву Канады за тое, што фінансава памагло яму прыбыць на Фэстываль, ды за магчымасьць адведаць у Вікторыі Міжнародны Інстытут, у якім, дарэчы, дзякуючы стараньням сп. Коласа, будзе студыявацца і беларуская моладзь.

Урачысты Сход закончыўся агульным адсьпяваньнем Беларускага Нацыянальнага Гімну «Мы выйдзем шчыльнымі радамі».

**Др. Раіса Жук-Грышкевіч, Бэры—Таронта**




## ПРАТРЫМАЛІ СЕМ МЕСЯЦАЎ І ВЫПУСЬЦІЛІ

29 сакавіка адбылося вырашальнае паседжаньне ў справе Ўладзімера Плешчанкі, старшыні Віцебскай Рады БНФ. Яго абвінавачвалі ў дзёрзкім разьбіцьці бюсту Суворава.

У.Плешчанку арыштавалі 2 верасьня 1998 году, празь дзень пасьля здарэньня, адказнасьць за якое ўзяла на сябе група вызвольнага руху пад кіраўніцтвам Мірона. Сем месяцаў старшыня Рады «Выбар» сядзеў у вязьніцы.

Заслухалі сьведкаў. Барыс Хамайда цалкам пацьвердзіў паказаньні У.Плешчанкі адносна іх сустрэчы ў ноч на 1 верасьня з падпалкоўнікам Заблоцкім. Юрась Карпаў патлумачыў, што Заблоцкі хлусіць, калі сьцьвярджае, што бачыў яго а палове на трэцюю начы разам з Хамайдам і Плешчанкам, бо сам Карпаў у гэты час працаваў у іншым раёне гораду. Тое, што пачало адбывацца ў зале пасьля перапынку, нагадвала ня вельмі дасьціпную камэдыю. Адвакат У.Плешчанкі, сп.Шайкевіч, пажадаў зірнуць на гумовыя боты, нібыта ўзятыя ў абвінавачванага. Калі іх прынесьлі, высьветлілася, што іх памер не адпавядае ні толькі назе Плешчанкі, але й таму гіпсавому зьлепку, які, фактычна, стаўся прычынаю шматмесячнага ўвязьненьня. І ўрэшце, пры супастаўленьні ботаў няўзброеным вокам заўважна, што яны з розных параў: рознага памеру, неаднолькава зношаныя, адзін з цёмнай, другі амаль зь белай унутранай паверхняй. Пасьля гэтага судзьдзя Ал.Абашын папрасіў бакі выказацца адносна магчымасьці завяршэньня справы. Усе сталіся адзінадушнымі ў тым, што з-за шматлікіх недакладнасьцяў справу нельга завершыць у гэты ж дзень, але У.Плешчанка мусіць быць вызвалены з-пад варты пад подпіс аб нявыезьдзе. Сам У. Плешчанка заявіў, што, калі яго неадкладна не вызваляць, ён змушаны будзе пайсьці на галадоўку.

Дык жа пастановаю суду справу накіравалі на дарасьсьледаваньне, а абвінавачванага вызвалілі з-пад варты проста ў зале суда. Каб жа шчэ далейшае сьледзтва высьвятліла ня толькі абставіны дэмантажу бюсту, але й чаму У.Плешчанку прыйшлося сем месяцаў мардавацца за кратамі.

**Камунікат Віцебскай Рады БНФ**

## Дабрыдзень, «Наша Ніва»!

Сяргей Паўлоўскі ў нумары за 29 сакавіка перахапіў мае развагі, разьвіўшы іх, праўда, крыху ў іншым накірунку.

Столькі ў Беларусі напладзілася фондаў, а краіну нашу быццам закансэрвавалі ў далёкім, але яшчэ памятным мінулым. Некалі было толькі адно Таварыства аховы помнікаў і бюро прапаганды пры ім, а наколькі больш удавалася зрабіць! Крыху пазьней пачало дзейнічаць Беларускае аддзяленьне Савецкага фонду культуры, і адраджэнская эліта перацякла туды, каб працягваць асьветніцкую дзейнасьць. З тае пары на ўспамін застался показка-быль.

Калі абмяркоўвалі пералік магчымых акцыяў новаств珠ранай арганізацыі, сп. Марачкін выказаў прапанову зладзіць выставу маляваных дываноў. Фондаўскі дзеяч Валяеў пацікавіўся: «А сколька іх у вас?» Марачкін прыкінуў і налічыў крыху больш за сорак, на што Валяеў глыбакадумна і шчыра зьдзівіўся: «Большэ сарака діванов? І где жэ вы іх храніте?» Гэта толькі адзін штрых да тае атмасфэры, у якой даводзілася працаваць.

Але ж тады адчуваўся вялікі аптымізм, бо была ў людзёх тады нейкая еднасьць, у тых, якія працавалі на беларушчыну; а з другога боку, адраджэнцы былі і высокаадукаванымі, і высокамаральнымі. Яны браліся за любую, нехай мазольную і някучную, працу. З канца семідзясятых на адукацыйны цэнз адраджэнцаў мусілі меркавацца і ўлады. Выяўляць сваё невуцтва стала нямодным. Гэта таксама прыносіла плён.

Праходзілі канфэрэнцыі ў сп. Церашчатавай, матэрыялы якіх друкаваліся ў зборніках. Пайшла навукова-папулярная літаратура па помніках архітэктуры, этнаграфіі, гісторыі, мастацтве. Запушчаная была цэлая плойма энцыкляпэдычных выданьняў, адна за другой выходзілі манаграфіі па гуманітарных навуках. Усё гэта пачынала ціскаць і традыцыйна расейскамоўную тэхнічную інтэлігенцыю. Ажывіўся музэйны рух, дзе нават нарадзілася нейкая канкурэнцыя. У Горадні музэй з базыльянскіх муроў канкураваў са сваім сабратам на Старым замку. Стварэньне экспазіцыі старажытнабеларускага мастацтва ў Акадэміі навук змусіла актывізавацца супрацоўнікаў мастацкага музэю.

Утвараліся новыя грамадзкія аб'яднаньні. Моладзь гуртавалася ў свае суполкі, якія займаліся працай на рэстаўрацыйных пляцоўках. Улады змушана прыстасоўваліся да гэтай магутнай і шырокай плыні, да адраджэнскіх аўтарытэтаў. Магчыма, прычынай таму былі канкрэтныя вынікі іх дзейнасьці. Мітынгі былі не ў модзе.

А вось з пачатку дзевяностых запанаваў мітынговы рух. А на іх — няхай не крыўдуюць мітынговыя прамоўцы, разумнае рэдка пачуеш. А беларус, калі ня бачыць рэальнага выніку, хутка губляе цікавасьць да справы.

На завяршэньне працытую некага з раньнеадраджэнскіх навапалачанаў:

*Размаўляю па-беларуску:*
*Як у трамваі глядзяць на зайца,*
*Пазіраюць на мяне этрускі**
*Ад Асьвеі да Камянца.*

(*этнічныя рускія)

Столькі мінулася гадоў — гэта ж дзесяцігодзьдзі ўжо прайшлі — а ці зьмянілася што ў Беларусі да лепшага?! Ці, мо, меў рацыю Анатоль Сідарэвіч, калі са скрухаю казаў, маўляў, дзеля беларусаў можна працаваць, не шкадуючы сілаў, але ж зь беларусамі нічога зрабіць немагчыма?

**Луцэя Баторына, Менск**

## МОЙ ДЗЕНЬ МОВЫ

Гэты дзень воляй лёсу я правёў у Менску. Цікава было паназіраць ды паслухаць — як вылучаецца Дзень мовы там зь іншых дзён жыцьцёвае мітусьні. Падарожжа пачалося звышфайна — у аўто граюць усю дарогу касэты беларускіх музыкаў. Кіроўца службовае машыны ў гэты дзень упершыню чуе сапраўдную беларускую музыку. Ён, расеец, замовіў запісаць сабе і «NRM», і «Narodny Albom» і яшчэ шмат іншага. Вядома, прамаўляць па-беларуску яму было надта цяжка, але захапленьне словамі па-нашаму відавочна зьзяла. Здавалася, што ўвесь сьвет — беларускі — вакол цябе мільгае праз шыбу аўто... Зьявілася нават лёгкае ачмурэньне, нібы прыехаў у будучую Беларусь. У камэрцыйнай фірме выключна беларускае маўленьне выклікала нязмушаную цікавасьць і нават лёгкую зайздрасьць. Атрымалася! Амаль аднолькавая рэакцыя — гандлярак у «Доме на Нямізе», касыркі ў хлебнай краме на Круглай плошчы... І тут я зславіў сваю думку ў галаве — а дзе ж яшчэ «нашыя людзі» ў гэты дзень? Дзіўна, але вандруючы пехам амаль чатыры гадзіны ў Менску, я так і не пачуў аніводнага нашага слова ад аніводнага чалавека на вуліцы, у крамах, ва ўстановах. Балюча... Яшчэ цяжэй, мабыць, чымся калі б вакол не было людзей. Але Дзень мовы патрэбны. І ня дзень, а ўсё жыцьцё. Менавіта ў гэты дзень вырастаюцца маральна ад «саўдэпаўскага» балота думак ды жаданьняў. Адчуваю, што жыву, бо маю мэту, вылучаюся з шэрасьці, імкнуся быць асобай.

Зваротны шлях ізноўку атрымаўся аптымістычным, бо я вяртаўся дахаты. І кожны з нас зь цягам часу абавязкова будзе вяртацца дахаты, да Беларусі, да сваёй беларускае душы. І гэтае вяртаньне назад насамрэч ёсьць шляхам наперад.

**Уладзімер Аўсеевіч, Баранавічы**

## ULIS І НОВАЕ НЕБА Ў ЛЬВОВЕ

Гурты ULIS і НОВАЕ НЕБА 18—19 сакавіка далі канцэрты ў львоўскіх клюбах «Бабілён» і «Лялькі». Выступы адбыліся на запрашэньне найстарэйшага заходнеўкраінскага гурта МЕРТВИЙ ПІВЕНЬ. Львоўскія сябры казалі, што выступ беларускіх рокераў можа прэтэндаваць на намінацыю «падзея году». «Я ўражаны і ўсьцешаны тым, што беларусы паказалі галічанам, як трэба граць і як трэба «любіць бацькаўшчыну», — гэта словы з тэлеінтэрвію прэзыдэнта Асацыяцыі ўкраінскіх пісьменьнікаў Юрка Пакальчука. Ад сябе магу дадаць, што такога моцнага натхненьня ўжо даўна не было ані ў Касі Камоцкай, ані ва «ўлісаўцаў». «Эрбэшны» афіцыёз любымі сродкамі імкнецца загнаць незалежныя культурныя асяродкі «пад зямлю». Як вынік, зьяўляюцца новыя выданьні, кнігі, ствараюцца новыя песьні... Што беспасярэдне да рок-н-ролу, дык музыкі ўсё часьцей выяжджаюць за мяжу, экспартуючы прадукт з надпісам «Made in the Kingdom of Belarus».

Калі казаць пра ULIS, NRM, KRIWI, НОВАЕ НЕБА і праект «Народны Альбом», дык у бліжэйшыя тры месяцы музыкі маюць выступы ва Ўкраіне, Польшчы і Францыі... Калісьці я браў квіткі на парыскім усходнім аўтавакзале. Цікаўны касір спытаўся, зь якой я краіны. На слова «Belarus» ён адрэагаваў словам «Lukashenka». Мяркую, што якім бы драматычным ні стаўся канец «эрбэшнага абсурду», усё ідзе да таго, што яшчэ пры жыцьці таго парыскага касіра на слова «Belarus» мне ў Эўропе будуць адказваць словамі з новага слоўніка нашага Каралеўства.

**Квят.**

## НЕАБ'ЕКТЫЎНЫ ПЕРАПІС

Таварыства Беларускай Мовы імя Францішка Скарыны выступіла 26 сакавіка з заявай, у якой даецца наступная ацэнка нядаўняму перапісу насельніцтва ў Рэспубліцы Беларусі:

«У нашай краіне з 16 да 23 лютага гг. праведзены перапіс насельніцтва. Ужо ў час падрыхтоўкі да яго дзяржаўныя чыноўнікі дапусьцілі парушэньні правоў грамадзянаў. Перапісныя фармуляры Міністэрствам статыстыкі і аналізу былі падрыхтаваныя толькі на расейскай мове. Уся наглядная агітацыя па перапісе афармлялася толькі па-расейску. Некаторыя пытаньні, унесеныя ў перапісныя фармуляры, мелі характар умяшаньня ў прыватнае жыцьцё. У дні перапісу ў Таварыства Беларускай Мовы паступіла больш за 60 тэлефанаваньняў і пісьмовых заяваў з абуральнымі фактамі грубага парушэньня працэдуры перапісу. Вельмі часта ў перапісчыкаў не было блянкаў на беларускай мове, а самі яны не валодалі беларускай мовай. Нярэдка перапісныя фармуляры запаўнялі загадзя, а ў рэспандэнтаў бралі толькі пашпартныя зьвесткі. Пытаньні аб роднай мове і мове пабытовага ўжытку наагул не задавалі. Правільнасьць запісаў у людзей не ўдакладнялі і не ўзгаднялі. Агітацыяй на карысьць такога варыянту запісу займаліся кіраўнікі некаторых калектываў і вайсковыя камандзіры. Разумеючы, што зафіксаваныя актывістамі ТБМ факты — толькі нязначная частка грубых парушэньняў правоў грамадзянаў і законаў Рэспублікі, мы ўжо сёньня маем усе падставы сумнявацца ў аб'ектыўнасьці і дакладнасьці праведзенага перапісу і лічыць яго яшчэ адной сплянаванай высокімі чыноўнікамі акцыяй, скіраванай на барацьбу зь беларускай мовай і незалежнасьцю Бацькаўшчыны».

# ХРЫСТОС УВАСКРОС!



Здымак Дзяніса Раманюка

Працяг са старонкі 1.

Апошні раз я пабачыў яго ў Беларусі, у шпіталі, дзе ён ляжаў без надзеі на паправу. Я сустрэў тады і ягоную маці, бедную, спрацаваную, адзінокую — яна была ўдавою — жанчыну. Як многія зь ейнага пакаленьня, што нарадзіліся і жылі пры савецкім рэжыме, яна ня мела ніякага рэлігійнага ўзгадаваньня. Сын быў для яе ўсім, і безь яго ейнае жыцьцё траціла сэнс.

Я бачыў ейны боль, і мне хацелася суцешыць яе, сказаць нешта добрае, але мяне ўстрымлівала думка, што ўсё, што б я ні сказаў, гучала б павярхоўна і непераканаўча. Калі я яшчэ быў маладым сьвятаром, у маёй самаўпэўненасьці хацеў суцешыць некага, хто страціў дарагую сабе асобу, і атрымаў адказ: «Вы, айцец, нічога не разумееце». Гэта была для мяне навука на ўсё жыцьцё.

Пытаньне цярпеньня ў людзкім жыцьці, асабліва цярпеньня праведніка, ад самага пачатку не давала спакою людзям. Гэтаму пытаньню прысьвечаная старазапаветная кніга Ёва, які быў праваобразам праведнага пакутніка. Адно было ясна, што погляд, быццам Бог аўтаматычна ўзнагароджвае добрых і карае дрэнных, занадта спрошчаны і не адпавядае сапраўднасьці. Але як тады пагадзіць гэта з Божай дабрынёй і справядлівасьцю? Прарок Ярэма пытаўся: «Ты, Госпадзе, маеш слушнасьць, калі спрачаюся з Табою; тым ня менш хачу зрабіць Табе закід: чаму доля нязбожных шчасьлівая і ўсім вераломным добра жывецца?» (Яр 12:5). Можа сапраўды Бог абыякавы да лёсу людзей і «робіць, каб сонца ўзыходзіла над добрымі і благімі, і пасылае дождж на праведных і няправедных» (Мц 5:45)? Пытаньне гэтае ўздымалася не адзін раз і ў сьвецкіх творах, у тым ліку і ў нашай літаратуры. Можна прыгадаць верш бацькі беларускага адраджэньня Францішка Багушэвіча «Бог няроўна дзеле», эпіграфам да якога паслужыла народная прыказка «Бог сіротаў любе, але долі не дае». А Янка Купала, гледзячы на гаротны лёс свайго народу, зьвяртаецца да «Цара неба і зямлі»:

*«За што, о Божа, праведны, магучы*
*Караеш так няшчасны свой народ?*
*Чаму на стогн маўчыць Твой гром бліскучы,*
*На стогн, што да Цябе йдзе з году ў год?»*

Аднак Бог даў адказ, хоць ён быў нечаканым для большасьці людзей. Ён сам стаўся чалавекам у асобе Ісуса Хрыста і пацярпеў сьмерць на крыжы. Такім чынам Ён можа сказаць нам: «Я разумею вас, бо я, стаўшыся адным з вас, зьведаў зьнявагі, зьдзекі, боль, страшэнную сьмерць на Крыжы. Я ведаю, што такое здрада, што значыць быць пакінутым праз прыяцеляў у часе найбольшай патрэбы. Ведаю, што такое беспрасьветная духоўная цемра і спусташэньне, калі, здаецца, нават Бог забыўся на цябе і з глыбіні душы вырываецца крык, поўны роспачы: Божа мой, Божа мой, чаму Ты мяне пакінуў? Нішто людзкое не чужое мне, і таму спачуваю вам». Сьвяты Павал пасьля скажа пра ўсё гэта: «Ён павінен быў стацца ва ўсім падобным да братоў, каб быць міласэрдным і верным Найвышэйшым Сьвятаром перад Богам, каб ачысьціць грахі народу. Бо як Ён сам цярпеў і быў выпрабаваны, дык можа тым, што выпрабоўваюцца, дапамагчы» (Гэб 2:17-18).

Такім чынам Крыж, на якім пацярпеў Хрыстос, стаецца для нас знакам Божае спагады. Можна сказаць, што ўсё зямное жыцьцё Хрыста праходзіла пад ценем Крыжа. Як Бог, Ён ведаў, што Яго чакае, і ягоная людзкая прырода, якую Ён успрыняў, не магла не дрыжэць і трывожыцца. Гэта праяўлялася ў ягоных выказваньнях: «Душа мая ўстрывожаная. Што ж мне сказаць? Ойча, выбаў мяне ад гэтае гадзіны! Але ж якраз дзеля гэтага, дзеля гэтай гадзіны, я прыйшоў!» (Ян 12:27).

Але Хрыстос, як Бог, непадуладны сьмерці. І вось Ён устае на трэці дзень і ўзьнімае з сабою людзкую прыроду, якую Ён успрыняў і якая непадзельна зьлучаная з Боствам у Ягонай асобе. Такім чынам уваскрасеньне Хрыстовае — гэта аднаўленьне людзкой прыроды ў Богу, узвышэньне да боскага жыцьця, перамога над сьмерцю. Гэта новы акт тварэньня.

Сьвята Ўваскрасеньня Хрыстовага, Вялікдзень, называецца таксама Пасхаю Госпадняю. Пасха — слова гэбрайскага паходжаньня і азначае «пераход». Першая Пасха — гэта пераход гэбрэяў праз Чырвонае Мора пад кіраўніцтвам Майсея, які вывеў іх зь ягіпскай няволі да абяцанай зямлі. Другая Пасха, Вялікдзень, — гэта таксама пераход, гэтым разам пад кіраўніцтвам Хрыста, ад сьмерці да вечнага боскага жыцьця. Але дарога туды вядзе праз Крыж.

Бог не абяцае нам, што ў гэтым жыцьці будзем вольныя ад цяжкасьцяў і цярпеньняў. Наадварот, Ён сказаў: «Хто хоча ісьці за мною, хай адрачэцца ад сябе, возьме свой крыж і ідзе сьледам за мною» (Мк 8:34). Затое мы маем упэўненасьць нашай канчатковай мэты. І вось гэтая ўпэўненасьць дае нам сілу ісьці па паказанай нам Хрыстом дарозе, нягледзячы на ўсе цяжкасьці. Дый наш Правадыр не пакідае нас саміх, бо, як сказаў сьвяты Павал «Маем не такога архісьвятара, які б ня мог спагадаць нашым слабасьцям, але дасьведчанага ва ўсім на нашае падабенства, апроч граху. Дык наблізімся з даверам да пасаду ласкі, каб атрымаць міласэрднасьць і знайсьці ласку для дапамогі ў патрэбную хвіліну» (Гэб 4:15-16).

Вось гэтая ўпэўненасьць нашай канчатковай мэты, і тое, што маем магутнага Памочніка ў нашых цяжкасьцях, ёсьць асноваю нашай вялікоднай радасьці.

На заканчэньне хачу вярнуцца да таго, з чаго пачаў. Мне хочацца верыць, што для маці памерлага хлопчыка, у яе намаганьнях зразумець сваю балючую страту, удалося спасьцігнуць гэтую вялікую таямніцу Божае спагады. Магчыма, яна хацела сказаць мне пра гэта, прыслаўшы крыж, аплецены цярновымі галінкамі, сярод якіх квітнеюць пышныя ружы.

Няхай жа Госпад і Бог Наш Ісус Хрыстос, які, як кажацца ў адной з нашых царкоўных песьняў, «памёр як чалавек, і ўваскрос як Чалавекалюбец», у гэты вялікі і сьветлы дзень, напоўніць нашыя сэрцы глыбокай духоўнай радасьцю і супакоем, якіх ніякія нягоды і выпрабаваньні ня могуць пахіснуць, бо яны аснованыя на ўпэўненасьці нашага пакліканьня да ўдзелу ў Божым жыцьці.

ХРЫСТОС УВАСКРОС!

**а. Аляксандар Надсан**

Вялікдзень 1999

## СЛОВА АЙЦА АНДРЭЯ
# НА ТАМАШОВУ НЯДЗЕЛЮ

— І сьвятло ў цемры сьвеціць,
і цемра не агарнула яго.

*Ян. 1. 5.*

Больш за 3000 гадоў таму Бог праз Майсея вывеў Ізраільскі народ з так званага Эгіпэцкага палону, Бог дараваў ізраіліцянам свабоду і незалежнасьць. З таго часу яны штогод сьвяткавалі ў гонар вызваленьня Сьвята Пасхі.

Гэтымі днямі хрысьціяне ўсяго сьвету ўзгадваюць Новую Пасху, калі Бог захацеў праз свайго адзінароднага Сына, Госпада нашага Ісуса Хрыста дараваць нам свабоду ад граху, незалежнасьць ад сьмерці. Спрадвечны Бог стаўся чалавекам, Ён нарадзіўся, як малое дзіцятка, рос, як звычайны хлопчык, пасьля хадзіў па зямлі, навучаў любові, нарэшце пасьля пакутаў памёр, памёр на крыжы — усё гэта ня мае значэньня ані сэнсу без таго, што Ісус на трэці дзень Уваскрос зь мёртвых. Сваёй Сьмерцю Ён зьнішчыў сьмерць, а праз сваё Ўваскрасеньне дараваў нам Вечнае жыцьцё, паказаў нам дарогу да Валадарства Нябеснага.

У Эвангельлі ад Яна, у 20-м разьдзеле апісана здарэньне, якое заслугоўвае на нашу ўвагу. Калі апосталы, вучні Ісуса Хрыста, дзеля «страху перад Юдэямі» былі ў доме за замкнёнымі дзьвярыма, да іх прыйшоў Уваскрослы Ісус і «стаў пасярод іх». Такім чынам апосталы пераканаліся, што Госпад сапраўды ўваскрос. Але зь імі ў той дзень не было Тамаша, якога мы сёньня называем «Няверуючы», таму што ён засумняваўся: «калі ня ўбачу на руках у Яго ранаў ад цьвікоў, і не ўкладу пальца майго ў раны ад цьвікоў, і не ўкладу рукі маёй у рэбры Ягоныя, не паверу». Тады Ісус прыйшоў другі раз, прыйшоў да Тамаша: «падай палец твой сюды і паглядзі рукі Мае; падай руку тваю і ўкладзі ў рэбры Мае; і ня будзь няверуючым, але веруючым». Як бачым, Ісус прыйшоў да Тамаша, каб даць яму тое, што трэба было толькі яму, а не камусьці іншаму.

Так Ісус гатовы прыйсьці да кожнага, дзе б ён ні быў, у якой бы жыцьцёвай сытуацыі ні знаходзіўся. «Вось стаю ля дзьвярэй і стукаю, і хто адчыніць, зайду і буду вячэраць зь ім», — кажа Ён.

Сёньня ў Беларусі вельмі цяжка жыць, большасьць маіх знаёмых гатовыя выехаць у эміграцыю, некаторыя выяжджаюць, некаторыя толькі мараць пра гэта, але бачаць у гэтым збаўленьне ад сваіх праблем, пэнсіянэры, гледзячы на сваю пэнсію, толькі ўздыхаюць, сярэдняга веку людзі, калі не бізнэсмэны, топяць свае праблемы ў гарэлцы, ды й бізнэсмэны таксама, маладыя жанчыны забіваюць сваіх ненароджаных дзяцей, ня ведаючы, як іх выгадаваць, дзеці і падлеткі забіваюць нашу будучыню, ужываючы наркотыкі й гарэлку. Гледзячы на гэта, спакойна можна паўтарыць за Янам Паўлам II: наша цывілізацыя — гэта цывілізацыя сьмерці. Але Ісус Хрыстос сваёй Сьмерцю зьнішчыў сьмерць, і толькі Ён — Уваскрослы Госпад можа і хоча памагчы нам збудаваць наша жыцьцё і будучыню нашых дзяцей. Давайце за апосталам Тамашом вызнаем нашу веру: «Ты Госпад мой, Ты Бог мой», бо толькі ў Ім мы можам знайсьці збаўленьне, спакой і ўпэўненасьць у заўтрашнім дні. Напрыканцы хачу прывесьці словы аднаго сьвятара, які так сказаў пра нас: «Калі Беларусь ня будзе Хрыстовай, Беларусі ня будзе зусім». Хрыстос дае нам шанец. Славім Яго за гэта!

ХРЫСТОС УВАСКРОС!

САПРАЎДЫ ЎВАСКРОС!

**а. А. Абламейка**

Славамір Адамовіч

# БЫТАВУХА-3



**Зубачыстка**

28 студзеня 1999 году раніцай з вакна свайго інтэрнацкага пакою вывесіў наш бела-чырвона-белы сьцяг. Гадзіны праз дзьве пастукалі ў дзьверы — цэлая зграя форменных і цывільных. Не адчыніў. Тады ўварваліся ў пакой, які над маім, і паспрабавалі былі мой сьцяг зьбіць. Але не ўдалося, бо я пасьпеў яго назад у пакой уцягнуць. З тым і адступілі налётчыкі. Праўда, падлянку яны мне ўсё ж кінулі, дробненькую мянтоўскую падляначку — запхнулі ў замок дзьвярэй... зубачыстку. Адсюль раблю выснову: па-першае, у рацыёне нашых праваахоўных органаў прысутнічае мяса, па-другое, сілавікі пераЖываюць за свае зубы. А дырэктар ПТВ-24 Саюк пераЖывае за сваю кар'еру. Таму і прасыгналізаваў у міліцыю і КГБ пра вывешаны бела-чырвона-белы сьцяг.

**Трэнінг**

У 36-м тралейбусе выпадковая спадарожніца Мар'яна з таямнічым выглядам запрасіла наведаць *трэнінг*. Што за ён — не сказала, але адрасок, дзе яго можна знайсьці, шапнула: сталічная вуліца Матусевіча, ДК вытворчага аб'яднаньня «Сукно».

21 лютага вечарам я знайшоў гэтае дзіва ў памяшканьні правага крыла дому культуры. З гадзіну мы, госьці і гаспадары, перамяшчаемся па фае ды папіваем мінэралку. Потым нас запрашаюць наверх, дзе і праходзіць само мерапрыемства. Удзельнічаюць у ім пераважна жанчыны. Пераважна сярэдняе клясы, што вынікае зь іх прафэсіяў: бугальтары, мэнэджэры, кіраўнікі фірмаў, выкладчыкі прыватных навучальных установаў, стаматоляг, псыхіятар. Усе тут як тут: разьвядзёнкі, крывыя на вока й цела, вялікія й мініятурныя, прыгожыя і ня вельмі. Вось жанчынка гадоў пад трыццаць з маленькім тварыкам. Тварык гадоў праз дзесяць ператворыцца ў печаны яблык, вусенкі стануць, завострыцца носік. У гэтай з тварыкам малюпасенькія грудзі і тоўстыя ногі. На левай лытцы — набраклыя сінія вены — які-небудзь тромбафлебіт. Яна адчайна танцуе, няўмела круціць срачкай, але адзінота, я бачу, адзінота вісіць над ёю. Яна зусім адна ў натоўпе, хоча ўцягнуць ў бесьперапынны танец сваіх знаёмых, але яны сыходзяць.

А вось іншая самотніца — поўная, умерана-агрономістая, залацістыя валасы, крыху чорным каля вачэй, крыху памады на вусны, прыгожы рот і рукі, як прыемна цалаваць такія рукі! Раз за разам яна ўскідвае галавой, залацістыя пасмы рассыпаюцца па плячах і, ах, як жа я любіў бы яе, ратуючы/ся ад адзіноты!

Потым яшчэ адна, старая гадоў пад 70 — які ўжо ёй трэнінг спатрэбіўся. Сядзіць вунь, як на танцах у калгасным клюбе.

Яшчэ рыжая гадоў 50-ці з дачкою-сямнаццаткай. Дачка ўся ў матку з аблічча, вузкія плечы, а грудзі такія, якія ў іншай і пад старасьць не сфармуюцца, файныя грудзі для сямнаццацігадовай. Вось дзе сапраўды патрабуецца трэнінг і мануальная тэрапія.

Калі ж хто не зразумеў, пра што мы тут разважалі, раю зьвярнуцца на адрас: Менск, Вайсковы завулак, дом 13, пакой 3, памяшканьне страхавой кампаніі.



**Варыятыўнасьць 37-га**

— Ну вот, ещё одна пришла, — сказаў да супрацоўніка УКГБ па Менскай вобласьці мядзельскі райпракурор, убачыўшы, што дзьверы кабінэту расчыніла сталага веку жанчына... Ужо некалькі дзён гэтыя два займаюцца тым, што засьцерагаюць жыхароў ад удзелу ў кампаніі па выбарах прэзыдэнта.

**Плыве**

У лазьні, што на вуліцы Бядулі. Менск, дзявятая раніцы, чацьвер. У памывачную заходзіць невысокі пацан, ненатуральна белы, увесь у наколках, на плячы — гады: 1997-1999. Значыць, толькі што адкінуўся. Падыходжу, пытаюся, дзе срок матаў, можа з кім з нашых знаёмы. Аказваецца, ён з Ульянаўскай вобласьці, зь нейкага Дзімітраўграду. На нутраным баку левай нагі, на самай костачцы — свастыка ў сонечным коле. І яшчэ адна на руцэ. Такі сабе сонечна-свастычны малады расейчык. Відаць, пасьля адсідкі першы раз у лазьню трапіў: сухое цела намыльвае, нібы баючыся, што не пасьпее памыцца за 15 хвілінаў. І сплывае зь яго бруд расейскай турмы, як сам ён сплыў да нас у пошуках лёгкага хлеба.

**Лякалізаваныя**

Менск, надвячорак. АнтыNATOўскі мітынг у парку Горкага. Пара на скорую руку намаляваных плякацікаў. Невыразныя, нават безаблічныя твары гаваруноў. Бяздарныя прамовы, якія не кранаюць ні душы, ні сэрца, ні сьпіннага мозгу. Чыкін у атачэньні экзальтаваных кабетаў тлумачыць, што вось прыйдзем да ўлады (!?), тады разьбярэмся і з РНЕ, і зь беларускімі нацыяналістамі. Якісьці Кірыл Георгіевіч абураецца фактам маёй прысутнасьці на іхным мерапрыемстве і раіць купляць білет да Тэль-Авіву. Эх ты, думаю, таўкач брытагаловы, беларуса ад жыда адрозьніць ня можаш, а туды ж, у антысэміты лезеш.

Пахадзіў я яшчэ крыху сярод лякалізаваных, паўзіраўся ў бязродныя фізіяноміі крэатураў расейскай ФСБ і выправіўся з анархамі піва піць.

Добра быць самім сабою, асабліва калі ты Генрыхавіч, а не Георгіевіч.

**Вяртаньне Арганісткі**

«Генрых! — піша Яна на паштоўцы фірмы «Konkret». — Віншую Цябе са сьвятам Вялікадня. Зычу табе спакою душы, здароўя і каханьня. Няхай табе будзе добра, як добра было мне з табою гэтыя шэсьць дзён. І няхай Бог бароніць цябе ад усяго злога. Я заўсёды памятаю пра цябе. Галіна. 31.03.99 г.»

***

Ня ведаю, добра гэта ці дрэнна, але яны вяртаюцца: на дзень-два, як жонка пасьля дванаццаці гадоў жыцьця ў разводзе; на тыдзень, як Арганістка пасьля вельмі жвавых эратычных штудыяў, завершаных дзесяцьцю месяцамі турмы...

Я забываюся пра свае крыўды і з новай жарсьцю цалую знаёмае цела маёй няспраўджанай нявесты: цалую вушы, што ёй асабліва падабаецца, і цалую там, дзе яна ня можа разабрацца, падабаецца ёй так, альбо не.

Днём Арганістка займаецца на курсах польскай мовы, потым вандруе па выстаўках і крамах, а вечарочкам цісьне піпмпачку майго званка.

Першы раз пасьля гадавога перапынку мы асабліва не затрымліваемся, адразу ідзём далей і глыбей. Мы ператвараемся ў галаваногіх, у гідрасфэру, у акіян гіпэрсубстанцыі, у церпкі рабінавы сок.

Арганістка — мая гуманітарная дапамога, мая кіслародная маска ва ўмовах падпольля. І калі заўтра мяне, функцыянэра выбарчай кампаніі, схопяць і кінуць у «амэрыканку», мая адвечная нявестачка ізноў напіша мне, як яна кахае і чакае. І я зноў паверу.

*Студзень—красавік 1999 г.*

# USAID СПАНСАРУЕ ЛУКАШЭНКУ

Большую частку амэрыканскай дапамогі, укладзенай у Беларусь з 1996 году, зьеў Лукашэнка, адзін з найбольш зацятых апанэнтаў амэрыканскіх інтарэсаў у Эўропе — сьцьвярджаюць людзі, добра знаёмыя з працэсамі аказаньня дапамогі. Нягледзячы на гэта, рэгіянальны офіс Агенцтва ЗША па міжнародным разьвіцьці, які знаходзіцца ў Кіеве, праігнараваў запатрабаваньні зьмяніць шляхі аказаньня дапамогі, а наадварот, запытаў Кангрэс ЗША пра тое, каб амаль падвоіць велічыню гадавой дапамогі Беларусі.

Лукашэнкаў рэжым рабуе дапамогу па старой савецкай схеме: утрымліваючы штучна заніжаны курсы абмену валюты. Амэрыканскі Фонд Дапамогі (USAID) высылае грошы атрымальнікам праз беларускія банкі ў далярах. Даляры йдуць на карысьць рэжыму, а атрымальнік пераводу атрымоўвае толькі малую частку даляравага кошту ў беларускіх рублях. Дзяржава ня толькі канфіскуе частку грантаў, дзякуючы рабаўніцкім абменным курсам, але й не дазваляе абнаяўліваць грошы, прымушае карыстацца выключна безнаяўнымі рахункамі, на чым крадзе яшчэ частку. Больш за тое, рэшту яшчэ й абкладаюць вялікім падаткам. Пітэр Бэрн, былы дырэктар Фонду Сораса ў Беларусі, лічыць, што атрымальнікі дапамогі выплачваюць у якасьці падаткаў каля 30 % ад сумы гранту. У выніку да арганізацыяў-атрымальнікаў дапамогі даходзіць хіба які адзін даляр зь пяці ці шасьці. «А пяць зь шасьці даляраў дапамогі ідуць наўпрост у адміністрацыю беларускага прэзыдэнта», — сьцьвярджае Бэрн.

Пітэр Бэрн кажа, што ён ужо ўздымаў праблему ў Кіеве ў кастрычніку, але афіцыйныя прадстаўнікі USAID зрабілі выгляд, што ня чуюць. Лінда Бэрнштайн, адказная за фінансавую дапамогу Беларусі, адмовілася камэнтаваць заяву Бэрна. «Гэта частка значна шырэйшай палітычнай праблемы», — адказала яна.

На web-сайце кіеўскі USAID піша, што на 1999-ты фінансавы год чакаецца выдзяленьне для Беларусі 11,3 мільёнаў даляраў (у параўнаньні з 6,7 мільёнаў даляраў у 1997 і 1998 гадах). Гэта мізэр побач з 225 мільёнамі даляраў, якія ЗША выдзеліла ў якасьці дапамогі Украіне па гэтай праграме, але ўсё ж гэта значная падтрымка рэжыму, якому крытычна не стае валюты. «Шкада, што такія вялікія сумы грошай марнуюцца», — шкадуе Бэрн. З 1997 году, калі дзейнасьць Фонду Сораса ў Беларусі забаранілі, а самога Бэрна дэпартавалі, ён працягвае працаваць зь недзяржаўнымі арганізацыямі Беларусі з-за мяжы.

Запыт USAID на 2000 год цяпер разглядаецца ў Кангрэсе. Адзін з кангрэсмэнаў-рэспубліканцаў, які мае дачыненьне да кантролю за фінансавай дапамогай, адзначыў, што ён нічога ня чуў пра хітрыя сыстэмы пераводу грошай, але гэта яго не зьдзіўляе. «Нашай палітыцы бракуе ўяўленьня. Мы ўвесь час абараняемся і ня думаем пра наступальныя мэтады». Іншая адказная асоба ў Кангрэсе выказала непаразуменьне, чаму USAID не перасылае ў Беларусь даляры гатоўкаю ў дыпляматычнай пошце.

Нядаўна шэраг беларускіх дэмакратычных няўрадавых арганізацыяў зьвярнулі ўвагу на яшчэ больш складаную праблему — стварэньне рэжымам няўрадавых арганізацыяў, якія выдаюць сябе за прыхільнікаў дэмакратыі і спаборнічаюць за атрыманьне дапамогі з сапраўднымі НА. У адкрытым лісьце беларуская Асамблея няўрадавых арганізацыяў (АНА) абвінаваціла прадстаўніцтвы USAID, у прыватнасьці, тыя, якія знаходзяцца ва Украіне, што іх дзейнасьць не адпавядае мэтам станаўленьня дэмакратыі ў Беларусі. Рэч у тым, што беларускі рэжым спрабуе ўзяць пад свой кантроль так званы «трэці сэктар», НА, укараніўшы там сваіх людзей або агентаў КГБ, але на гэта ніхто не зважае. Паводле Жанны Літвіной, кіраўніка Беларускай Асацыяцыі Журналістаў, «урад стварыў свой кішэнны праваабарончы камітэт, сваю ўласную Асацыяцыю журналістаў. Сапраўдны ж трэці сэктар, асноўную сілу супрацьву таталітарызму, спрабуюць маргіналізаваць». Але ня ўсе за межамі Беларусі разумеюць тую небясьпеку, якую ўяўляе сабой дыктатарскі рэжым у Беларусі, і тое, хто ў Беларусі нясе асноўны цяжар «адкрытага супрацьстаяньня дыктатуры». Ліст падпісалі Васіль Быкаў, Тацяна Працька, Міхаіл Чыгір, цяпер ужо чарговы вязень рэжыму, ды іншыя.

Тэры Леры, прадстаўнік USAID, лічыць, што гэта толькі прыватная барацьба, вынік канкурэнцыі між НА у барацьбе за дапамогу. «АНА і беларуская апазыцыя хочуць скампрамэтаваць арганізацыі, зьвязаныя з уладамі, — кажа Леры. — Але як мы можам не падтрымліваць арганізацыі, хай і створаныя пры падтрымцы ўраду, але непалітычныя, да прыкладу, суполкі інвалідаў».

Сапраўды, большасьць беларускіх НА, створаных дзяржавай, ня вельмі адрозьніваецца ад арганізацыяў, заснаваных былымі партыйнымі і камсамольскімі босамі ва Украіне і Расеі дзеля зарабляньня грошай пошукам грантаў.

«Мы напісалі гэты ліст ня дзеля скандалу ці інтрыгаў, — кажа Карлас Шэрман, віцэ-прэзыдэнт ПЭН-клюбу і адзін з аўтараў. — Мы ўдзячныя тым дабрадзеям, безь якіх незалежны сэктар у Беларусі загінуў бы. Але што датычыць грошай амэрыканскіх падаткаплацельшчыкаў, дык я ўпэўнены, што яны ня хочуць, каб грошы ішлі на фінансаваньне лукашэнкавага АМОНу».

З таго часу, як Лукашэнка выселіў заходніх дыпляматаў зь іхных рэзыдэнцыяў, Эўропа перастала дапамагаць Беларусі па лініі TACIS. Прамую дапамогу ад ЗША Беларусь працягвае атрымліваць. Прадстаўніца амэрыканскага інфармацыйнага цэнтру ў Менску, аднак, кажа, што амэрыканская місія ў Беларусі не нясе адказнасьці за тое, куды трапляюць гэтыя грошы. «It is not subject here», — дадала яна.

*Паводле «Kyiv Post»*

**Падрыхтаваў Андрэй Саўчанка**

# СУД НАД МОВАЙ ВЫЙГРАЛА МОВА

**Пасьля таго, як Вышэйшы Гаспадарчы Суд зьняў з «Нашай Нівы» папярэджаньне Дзяржкамдруку за карыстаньне клясычным правапісам, Дзяржкамдрук заявіў пра сваю нязгоду і папрасіў Суд перагледзець гэтае рашэньне. Суд перагледзеў і пакінуў рашэньне бязь зьменаў. Гэта значыць, што «Наша Ніва» ў гэтай канкрэтнай спрэчцы адстаяла сваё законнае права пісаць тарашкевіцай, а не наркомаўкай.**

**Зразумела, на гэтым праблема правапісу не сканчаецца. Яна толькі з палітычнае плоскасьці вяртаецца ва ўласьцівую сабе — навуковую. Матэрыялы, якія сёньня друкуюцца, прадстаўляюць розныя погляды на разьвіцьцё беларускага правапісу.**

# ПРАБЛЕМЫ ТОЛЬКІ ПАЧЫНАЮЦЦА

Старшыня Найвышэйшага гаспадарчага суда пацьвердзіў ранейшы спрыяльны для «Нашай Нівы» прысуд у яе спрэчцы зь Дзяржкамдрукам. У дадзеным выпадку перамагла справядлівасьць. Можна радавацца, што законнасьць ужываньня «тарашкевіцы» цяпер прызнаная на юрыдычным узроўні. Можна спадзявацца, што яе праможнаму поступу цяпер нішто ня будзе замінаць.

Не сьпяшаймася.

Калі з справядлівасьцю тут зразумела, дык у астатнім, баюся, сытуацыя куды як няпэўная.

Ці пастанова лукашэнкавага (чытай: шамякавага, несправядлівага – і не істотна, што ў дадзеным выпадку сыстэма дала збой) суда нешта дадасьць аўтарытэту «тарашкевіцы»? Мяркую, не. Кадыфікаваны ў 1918 годзе правапіс існаваў і існуе як самадастатковы, ён ужо сьцьвердзіў сваю жыцьцяздольнасьць. «Тарашкевіца» была прыцягальнай дзякуючы менавіта ўладзе свайго аўтарытэту; што адбудзецца, калі «клясычны» правапіс стане апэляваць і да аўтарытэту ўлады, — невядома.

З прыняцьцем апошняга праўнага рашэньня нікуды не зьнікае галоўная праблема «тарашкевіцы» — вузкасьць яе сацыяльнай базы. Тут адбываецца сутыкненьне з куды больш сур'ёзнымі супернікамі, чым неабачлівыя і неахайныя законатворцы і самаўпэўненыя чыноўнікі зь Дзяржкамдруку. Імёны гэтых супернікаў – традыцыя і інэрцыя. За часы свайго існаваньня «наркомаўка» сягнула ва ўсе слаі грамадзтва, яна зрабілася абыклай, у значнай ступені «традыцыйнай». Гэтым ня можа пахваліцца «тарашкевіца». З часу яе вяртаньня са змушанай эміграцыі яе посьпехі ў апанаваньні беларускім грамадзтвам даводзіцца прызнаць даволі сьціплымі. Нават у самыя лепшыя часы «тарашкевіца» не пранікала ў такую важную сфэру, як адукацыя. «Клясычны» правапіс і цяпер застаецца другім беларускім правапісам, і пакуль няма падставаў казаць, што ў колькі-небудзь блізкай пэрспэктыве ён зможа стаць першым, а тым больш – адзіным.

Ня сьведчыць на карысьць «тарашкевіцы» і замежны досьвед. Нягледзячы на тое, што на пачатку XIX ст. пры фармаваньні новай грэцкай мовы быў абраны «клясычны» пісьмовы варыянт («катарэвуса»), які паўсюдна выкарыстоўваўся ў літургіі і быў афіцыйным сродкам камунікацыі органаў кіраваньня, што ўзьніклі пад час антыасманскай вызваленчай барацьбы, ён, аднак, і да сёньня ня змог выцясьніць «дымотыку» – мову на народнай аснове. Нікуды ня дзецца ад таго, прыкладам, што напісаньне словаў замежнага паходжаньня паводле «наркомаўскага» правапісу больш адпавядае сучаснаму вымаўленьню, чым «тарашкевіца», — і гэта ў значнай ступені робіць шанцы на яе дынамічнае пашырэньне вельмі сумнеўнымі.

**Сяргей Запрудзкі**



# СХІЗАФРЭНІЯ

Ужо 66 гадоў беларуская мова жыве ў стане схізафрэніі. Анамнэза ўсім вядомая — мы маем два варыянты літаратурнай мовы (часам праблема звужаецца і гаворыцца пра дзьве правапісныя сыстэмы, аднак адрозьненні паміж імі часта выходзяць за рамкі правапісу).

Гадоў дваццаць таму здавалася, што гэтая праблема паступова вырашаецца сама сабою — наркомаўка (у мэтраполіі) паступова выцясьняецца расейскай мовай, а тарашкевіца (у эміграцыі) згасае разам зь ейнымі носьбітамі. Такім чынам, усё ішло да таго, што наш «хворы» мусіў зьнесьці сваю хваробу з сабою ў дамавіну.

Аднак гэты мэханістычны прагноз не апраўдаўся. Ад пачатку 80-х у Беларусі абудзіліся зусім нечаканыя працэсы палітычнай фэрмэнтацыі. Хворы атрымаў нечакана вялікую дозу адрэналіну.

Наркомаўка, будучы ад самога пачатку запраграмаваная на русыфікацыю, паступова сталася інтэгральнай часткай сурагатнай БССРаўскай культуры, «нацыянальнай паводле формы, сацыялістычнай паводле зьместу». Яна таму й не супраціўлялася шматгадовай нацыянальнай дэградацыі беларусаў, бо сама даўно ўжо перастала быць жывым культурным арганізмам. Урэшце яна стала ўспрымацца як нейкае недарэчнае эспэранта, якое існуе толькі ў вуснах дыктараў радыё й тэлевізіі ды на старонках газэты «Звязда».

Зноў зазначу, што адрозьненьне наркомаўкі і тарашкевіцы — ня толькі і ня гэтулькі чыста правапіснае. Яно — у стылі, культуры мовы, у стаўленьні носьбіта да сваё мовы. Таму, скажам, мова нашых пісьменьнікаў збольшага была і застаецца па-за вузкім абсягам драўлянай наркомаўкі, ёй у наркомаўскіх шатах зацесна, яна ўвесь час «парушае» наркомаўскія стылістычныя, лексычныя, граматычныя, а часам і чыста правапісныя «нормы». Прычына ў тым, што мова майстроў слова абапіралася і абапіраецца на скарбы народных гаворак — галоўны моўны эталён, які, дарэчы, стаіць вышэй за ўсе правапісныя канвэнцыі. Носьбіты народных гаворак (там, дзе яны яшчэ жывыя) не гавораць ні наркомаўкай, ні тарашкевіцай. Апошняя — гэта толькі пэўная спроба стварыць на аснове гаворак пэўны літаратурны стандарт. Дарэчы будзе прыпомніць заўсёдныя нападкі афіцыйных мовазнаўцаў на пісьменьнікаў — якраз за парушэньні наркомаўскай «нормы».

Выглядае натуральным, што тыя, хто загаварыў па-беларуску ў 80-я гады, арыентаваліся на новы культурны вобраз Беларусі, які асацыяваўся з тарашкевіцай — і дзеля палітычных сымпатыяў, і дзеля пераемнасьці клясычнай традыцыі, і дзеля яе большай адпорнасьці да асыміляцыі. Тарашкевіца да тых часоў дажыла ў выглядзе старой спадчыны — публікацыяў 10-40 гадоў і жывой традыцыі — мовы эміграцыі. Праўда, адсутнасьць строга кадыфікаванай нормы ствярала й ствярае карыстальнікам тарашкевіцы шмат праблемаў.

Сёньня, напрыканцы 90-х, «гісторыя хваробы» зноў ускладнілася. Сфэра ўжываньня наркомаўкі працягвае звужацца, расейшчына выцясьняе яе нават з традыцыйных «бастыёнаў» — афіцыйных радыё, тэлевізіі, газэтаў. Тарашкевіца, так і ня будучы афіцыйна прызнаная, ня здолела выйсьці за межы свайго палітычнага гета, хоць і трымаецца трывала ў недзяржаўнай пэрыёдыцы і кнігавыдавецтве. Да таго ж, нарэшце, супольнымі намаганьнямі карыстальнікаў з мэтраполіі і эміграцыі ўдалося падыйсьці да фіксацыі нормы, што бясспрэчна надасьць тарашкевіцы вагі. Урэшце, летась тарашкевіца была ўскосна прызнаная ўладамі, якія паспрабавалі прымусіць незалежныя выданьні перайсьці на наркомаўку. Вынікам быў даволі камічны судовы працэс «Нашай Нівы» супраць Дзяржкамдруку — выйграны прыхільнікамі тарашкевіцы якраз таму, што ейнае існаваньне ўладамі не прызнаецца, а тое, чаго няма, не забароніш.

Такім чынам, на моўным фронце (які ў цэлым адпавядае фронту палітычнаму) сёньня можна вызначыць гэткія вузлы канфлікту: тарашкевіца, як і ўсе гэтыя гады, рашуча супрацьстаіць расейскай мове, тарашкевіцы гэтаксама рашуча супрацьстаіць расейская мова, расейскай мове супрацьстаіць, але даволі млява, наркомаўка (гэтая пара мірна суісnуе ў розных газэтах, радыё і тэлевізіі). Урэшце, тарашкевіцы супрацьстаіць наркомаўка.

Гэты апошні выпадак асабліва цікавы. Нейк так выходзіць, што ўсе зацятыя адэпты наркомаўкі, якія на працягу апошняга дзесяцігодзьдзя ваявалі з тарашкевіцай, належаць да вузкай і даволі спэцыфічнай катэгорыі людзей — усе яны так ці йнакш прафэсійна зьвязаныя зь беларускай мовай. Гэта школьныя настаўнікі, унівэрсытэцкія выкладчыкі, мовазнаўцы, выдавецкія рэдактары, карэктары — якім патэнцыйны пераход на тарашкевіцу мог бы пагражаць прафэсійнай дыскваліфікацыяй.

Набор іхных аргумэнтаў супраць тарашкевіцы даволі стандартны.

У тарашкевіцы вузкая сацыяльная база. Сацыяльная база тарашкевіцы, наркомаўкі і беларускай мовы наагул супадае. Тыя, каму неабыякавы лёс мовы, не адмовяцца ад яе з прычыны канфлікту «правапісаў». Што да шырэйшых масаў — носьбітаў жывых народных гаворак — дык, скажам, у Заходняй Беларусі людзі гавораць той самай «тарашкевіцай», што і за польскім часам. Альтэрнатыва тут зусім не наркомаўка, а — расейская мова.

«Народ не разумее тарашкевіцу». Народ разумее тарашкевіцу ў той меры, у якой ён разумее літаратурную мову наагул і ў якой ён не закрануты каставымі забабонамі згаданых вышэй прафэсійных катэгорыяў. Пад прыкрыцьцём гэтага аргумэнту некалькі незалежных пэрыядычных выданьняў свайго часу перайшлі з тарашкевіцы на наркомаўку і, часткова, на расейскую мову. Аднак імгненнага росту папулярнасьці не адбылося — хутчэй наадварот.

Наркомаўка за некалькі пакаленьняў прыжылася і стала традыцыяй. Наркомаўка — якраз той гістарычны варыянт літаратурнай беларускай мовы, ад якой беларусы масава адвярнуліся. У выніку беларусы ў масе сваёй даволі слаба валодаюць правапіснымі нормамі наркомаўкі. У нас наагул няшмат людзей, якія пісьменна (хоць бы ў межах школьнай праграмы) пішуць па-беларуску — нават сярод прафэсійных літаратараў. У гэтым сэнсе ў наркомаўкі няма ніякіх перавагаў перад тарашкевіцай. Ні пра якую «традыцыю» гаварыць не выпадае. Калі б давялося масава вучыцца з нуля — было б усё роўна, які варыянт выбіраць.

Тарашкевіца ня здолела афіцыйна замацавацца нават у «самыя лепшыя часы» — ня трапіла ў афіцыйны ўжытак, у адукацыю і г.д. Тарашкевіца не магла на роўных змагацца з наркомаўкай паводле «вагавай катэгорыі» — апошняя мела акадэмічную кадыфікацыю, шматгадовы афіцыйны ўжытак у друку, школьніцтве і г.д. Аднак, нягледзячы на гэта, нават у гэткіх умовах рабіліся крокі да сынтэзу, збліжэньня варыянтаў — ТБМ запачаткавала адпаведны праект, аднак гэтаму перашкаджала нарматыўная неаформленасьць тарашкевіцы. А пасьля рэфэрэндуму 1995 году пра гэта ўжо ніхто й ня згадваў.

Існуе аналагічны замежны досьвед: катарэвуса/дымотыка ў Грэцыі, букмол/лянсмол у Нарвэгіі, дзе «клясычны» варыянт літаратурнай мовы саступіў месца «народнаму». Найчасьцей для параўнаньня выбіраюцца сытуацыі неадпаведныя нашай — для атрыманьня пажаданай аналёгіі. У Беларусі мы маем справу не з «клясычным» і «народным» варыянтамі, а з двума палітызаванымі «народнымі» варыянтамі — «сваім» і «чужым». Наш выпадак больш выпадае параўнаць, прыкладам, з румынскай мовай у падсавецкай Малдове, або зь ідышам, які існаваў у «савецкім» і «антысавецкім» правапісных варыянтах.

Наркомаўскае напісаньне словаў замежнага паходжаньня больш адпавядае сучаснаму вымаўленьню, чым тарашкевіцкае. Словы замежнага паходжаньня часам успрымаюцца як галоўны паказьнік адрознасьці наркомаўкі ад тарашкевіцы. Тым часам гэтая розьніца зусім не такая істотная. Звычайны беларус аднолькава лёгка вымавіць «Амэрыка» і «Амерыка». Ніводзін з варыянтаў не пярэчыць беларускай фанэтыцы і фаналёгіі. Затое наркомаўскае «с[ъ]нег» гучыць ужо не па-беларуску.

Прыхільнікі тарашкевіцы, дарэчы, не адказваюць наркомаўцам «узаемнасьцю» і заўважных «баявых дзеяньняў» супраць іх не вядуць. Наадварот, у пэрспэктыве надыходу лепшых палітычных умоваў рэальна разглядаецца магчымасьць рацыянальнага кампрамісу паміж абодвума варыянтамі літаратурнай мовы. Але гэты дзень яшчэ не настаў.

Бясспрэчна, лячыцца ад схізафрэніі трэба. Аднак сёньня, калі «хвораму» пагражае небясьпека сьмерці, варта згуртавацца ў супрацьстаяньні найперш гэтай небясьпецы. Лячэньне галавы можна адкласьці на пасьля.

**Сяргей Шупа**

# НЕРЭЛІГІЙНАЯ НАЦЫЯ

*Працяг са старонкі 1.*

**І далей, што б ён ні казаў, за каго б ні прасіў, а жыць ён ужо будзе і з Богам, і ў Свабодзе.**

**Выглядае, гэта якраз тое, што ў нашым выпадку найчасцей выпадае з працэсу ўзгадаваньня. І самае першае, што выпадае — патаемнае пачуцьцё Сябе. Тое самае калектыўнае патаемнае, якое і творыць нацыю. У цэльных і адзіных у сабе народаў гэтае пачуцьцё гадуецца ў сем'ях, у традыцыйным асяродку, у школе, хоць школа пераважна агучвае, г.зн. выкрывае патаемнае, імкнецца зрабіць яго ўсьвядомленым. Глыбіннае ўзгадаваньне тут праходзіць спосабам завучваньня, зазубрываньня, як на ўроках рэлігіі. Але гэта ўсё ж ня тое месца, дзе найперш адбываецца перадача патаемнага.**

**Найперш — міжчалавечы кантакт. А ў нас наша старэйшае пакаленьне, калі не цярпела ад сталіншчыны, дык часта верна ёй служыла. А сталіншчына вымагала ня толькі ўсьвядомленае, але й патаемнае любові. Ёсьць і такія мэтады ўзгадаваньня, калі ў патаемнае заганяюцца патрэбныя ўладзе пачуцьці. Гэта найперш — панічны страх і вытворнае ад яго пачуцьцё рабскае пакоры. Бадай, няма ў нашай краіне старэйшага чалавека, які б не насіў пад сэрцам хоць крупіцу гэтага страху і пакоры. Людзей іншага кшталту зусім мала, яны, як цяпер модна казаць, на ўзроўні статыстычнае памылкі. У гутарках з такімі людзьмі проста фізычна адчуваеш прысутнасьць патаемнага пачуцьця Сябе, Свабоды і Праўды. Розумам гэта ня вытлумачыш — атрымаецца набор банальнасьцяў. Магчыма, адзіны спосаб пераемнасьці патаемнага — гэта глядзець і імкнуцца быць такім, як яны. Складаная мэханіка патрабуе, як і ўсё геніяльнае, вельмі простага мэтаду. Але на гэтым простасьць сканчаецца.**

**На каго пазіраць беларусам, да каго імкнуцца быць падобнымі, каб урэшце давершыўся гэты шматпакутны працэс фармаваньня нацыі? Мой адказ — на тых людзей, якіх аб'ядноўвае сёньня Рада БНР. Але гэта толькі мой адказ. Мой і яшчэ некалькіх соцень чалавек, каму такое глядзеньне даступнае. На каго глядзяць астатнія? На ўсенароднага прэзыдэнта? Тых, хто глядзіць з пашанай, усё меней. Выглядае, што большасьць проста пазірае па баках. Яны ў прастоі. Яны ня думаюць пра пераемнасьць, таму й ня маюць патаемнага пачуцьця беларусаў.**

**Сяргей Паўлоўскі**


Фота IREX/ProMedia

# «Я ПРА ГЭТА НІКОЛІ НЕ ЗАДУМВАЛАСЯ»

**Апытаньне на вуліцах Менску**


Здымак Анатоля Клешчука

Ці сапраўды беларусы — самыя абыякавыя да рэлігіі людзі? Задаючы гэтае пытаньне на менскіх вуліцах, я пераканаўся, што амаль ніхто ня згодны з гэтым сьцьверджаньнем. Зь іншага боку, амаль усе абышлі ўвагай уласна рэлігійныя інстытуцыі, ніхто не ацэньваў рэлігійную сытуацыю ў краіне.

— Я ня хрышчаная, але жыву паводле хрысьціянскіх правілаў. Я маральнымі правіламі кіруюся, якія для кожнага чалавека павінны быць асноўнымі.

Цікава, што сын гэтай кабеты працуе ў Ратамскай царкве.

Спадар трыццаці чатырох гадоў спрабуе займацца бізнэсам. Ён лічыць, што ў адсутнасьці рэлігійнай еднасьці беларусаў вінаватая гісторыя.

— Перамяшана шмат нацыяў і рэлігіяў — палітыка адыграла сваю ролю. Гэта дрэнна, вядома. Бо няма такіх дзяржаваў, якія б ухвалялі шмат рэлігіяў. Я сам праваслаўны... Тая сытуацыя, што ў Беларусі... Мне хочацца эміграваць. Сэнсу быць рабом няма. Выйсьце — у зьмене ўлады.

А гэты сталы чалавек лічыць, што актыўнае папаўненьне храмаў вернікамі сёньня — ня больш, чым даніна модзе, якая сыходзіць ад палітычнае вярхушкі. Ён згодны з тым, што беларусы ня маюць рэлігійнае еднасьці. Аднак ён ня згодны зь нерэлігійнасьцю асобна ўзятага беларуса.

— Шмат цяпер паказнога, але калі чалавек ве-

# БАНАЛЬНАЯ П'ЕСА ДЛЯ ЗАШТАТНАГА ТЭАТРУ

Мы зь ім раўналеткі з розьніцаю ў адзін дзень. Нават цёзкі. Нашыя бацькі, старыя сябры са студэнцтва, яшчэ да нашых зьяўленьняў на сьвет Божы дамовіліся назваць нас Міцямі. Але сябрамі мы так і ня сталі. Ён нарадзіўся карэнным масквічом, што было для мяне прадметам зайздрасьці. Але шкадаваў я, далібог, не сталіцы з Крамлём і мэтро, а менавіта гэтай самай ягонай карэннасьці. Сымбалем якой і была для мяне ягоная маскоўская кватэра. Абсалютна непадобная на тыя кватэры, дзе мне даводзілася бываць дагэтуль і пасьля. У якой уся мэбля была зроблена гаспадаром дому. Ад кухоннага зэдліка табурэткі да разнога пісьмовага стала. Такой колькасьці кніг я ня бачыў пасьля ні ў адным, адведаным мною доме. Можа, толькі на кухні не было кніжных стэлажоў. Шмат таямніцаў я адкрыў у тым доме. І па меры майго вырастаньня тая кватэра ў маім успрыманьні не зьмяньшалася ні на цалю.

Ня дзіўна, што наведваючы Маскву спачатку з бацькамі, а пасьля самастойна, я заўжды з радасьцю сьпяшаўся на Гагарынскі пляц. У кватэру, дзе ў дзьвярах можна сутыкнуцца зь якой-небудзь тэлезнакамітасьцю, дзе госьцю дазволена паліць хоць у ложку, дзе няма забароненых тэмаў для размовы і маса тады яшчэ забароненых выданьняў. Менавіта ў тым доме я ўпершыню пакаштаваў чырвоную ікру, разьвесяліўшы дарослую кампанію выказваньнем, што «не люблю я журавіны». Тамсама я ўпершыню пачуў запісы Галіча. «Адзін дзень Івана Дзянісавіча» я прачытаў таксама там. Уражаньне дапоўнілася фактам, што сам пісьменьнік некалі пад наглядам будаваў гэты дом. А можа і гэтую кватэру. Дарэчы, праваслаўныя іконы я ўпершыню ўбачыў таксама там. Сваім наіўным пытаньнем: «Дзеля чаго дзядзю Алегу гэтыя багі», я выклікаў нежартоўную спрэчку паміж старымі сябрамі. «Ты рускага чалавека выхоўваеш ці бусурманіна якога?» — крычаў дзядзя Алег на бацьку, — Калі ня ты, дык я сам яго у Загорск звазжу». З-за чаго такі шум, я тады не зусім зразумеў. Мы паступова сталелі. У Маскве пасьля няўдалай вучобы ў тэатральным я больш не зьяўляўся. Ад бацькі да мяне даходзілі толькі кароткія зьвесткі пра посьпехі майго маскоўскага цёзкі. Міцька без праблемаў паступіў у МГУ. Міцька працуе на нейкіх раскопках у Валааме. Міцьку прапаноўваюць працу ў маскоўскім філіяле нейкай заакіянскай юрыдычнай фірмы. Міцька купіў новую «Вольва».


Фота IREX/ProMedia

І ня быў у Маскве амаль дзесяць гадоў. З пляшкаю беларускай гарэлкі я без папярэджаньня паехаў на Гагарынскі пляц.

# ВЕРА — ГЭТА СВАЁ

Паэт Адам Глёбус у адным сваім вершы напісаў:

*Я стаю на крыжы*
*Беларускіх дарог*
*І ня бачу дзьвярэй*
*За якімі ёсьць Бог*

У гэтых словах роспач пакаленьня, якое гвалтам было адарванае ад сьвятыняў. І, шукаючы Бога наноў, новыя пакаленьні не знаходзяць яго ў пакаленьнях старэйшых. Повязь абарвалася. Абарвалася недзе тамака, дзе зьнікала і мова.

Пошукі Бога пачынаюцца там, дзе адкрываецца Беларусь. Паверыўшы ў беларушчыну, у яе бясконцую працягласьць у гістарычным часе, шукаецца большых тлумачэньняў таго, чаму мы адрозныя ад іншых: «Божа, што калісь народы на асобкі падзяліў, і хацеў каб народ кожны мовай роднай гаварыў...» Спачатку ня верылася, што наша мова мусіць загінуць, прапасьці між іншых. Гэта ператварыла б у абсурд стагодзьдзі нашае гісторыі, пасьянарныя памкненьні адраджэнцаў і іх ахвяру. Ахвяра ня гіне. Ахвяру можна забыць. І яна была забытая. Ці можна паверыць у ахвяру Хрыста, калі не даеш веры ахвяры сваіх супляменьнікаў?

Зрабіўшы для сябе адзіны выбар на карысьць беларушчыны, гэта азначае, паверыўшы ў яе бясконцасьць, непазьбежна паўстанеш перад наступным выбарам: «Ці ўсё, што створана пакаленьнямі да цябе, што робіш ты сам і што будуць рабіць пасьля цябе, існуе толькі тут, на зямлі?» Калі так, то, можа, беларушчына ёсьць толькі прыватным заняткам, гобі, зьбегам густаў?

... Калі я стаяў на Велікоднай імшы ў Вішнеўскім касьцёле, слухаў казаньне айца Чарняўскага, бачыў у вачах людзей чыстыя сьлёзы хваляваньня й радасьці, нешта зьмянілася і ўва мне. Калі ж запяяў хор, у мяне перахапіла дыханьне і я амаль фізычна адчуў прысутнасьць Бога. Гэта быў ці ня самы сьветлы дзень у жыцьці. Усё было тут маім: мова, людзі, бажніца і... прыдбаная вера. Гэтак для мяне, савецкага падлетка, сьвет набываў цэласьць. Я пераканаўся ва ўсім, пра што раней толькі здагадваўся...

Няма свайго — ня будзе веры. Пра тое казаў і апостал Павал, заклікаючы маліцца ў словах сваіх, зразумелых, а не грувасьціць безьліч незразумелых чужых словаў. Ці можа быць вера ў паствы, якую вядуць чужыя пастыры? Чужыя людзі, чужая мова. Толькі вера ня можа быць чужою.

Ці можна абысьціся без пасярэднікаў, аднаму спасьцігнуць сэнс сакрамэнту, адчуць прысутнасьць Бога? Бадай. Але калі на тваім шляху



Фота IREX/ProMedia

рыць, ён верыць.

Сьледам я зьвярнуўся да купкі студэнтаў, што палілі каля ўнівэрсаму «Цэнтральны».

— Я атэіст. Я супраць рэлігіі.

— Я ня хрышчаны і ня вернік... патомны.

— Я пра гэта ніколі не задумвалася.

Музыка Дзіма. У Менску яго ведаюць як віртуоза гры на гітары ў падземных пераходах:

— Усе мы вернікі: хто верыць у тое, што Бог ёсьць, хто — у тое, што Бога няма... Я сам будую царкву, працую будаўніком.

Дзяўчына ў пераходзе на «Кастрычніцкай», выглядае «пад гіпі», захоплена распавядае пра сваё развітаньне з Богам:

— Мая сям'я вельмі верыць у Бога, але я сама зьяўляюся прыхільніцай іншай тэорыі. Напрыклад, тэорыі Ніцшэ пра тое, што Бог памёр. Я зь дзяцінства верыла ў існаваньне Бога, але пасьля перамяніла погляд.

Зрэшты, дзяўчына любіць сваю маці, шануе ейную веру, таму бярэ ўдзел ва ўсіх сямейных сьвятах і ходзіць з маці ў царкву. Дзяўчыне, як і іншым ейным раўналеткам, да якіх я зьвяртаўся, складана разважаць аб рэлігійнасьці беларусаў увогуле, бо гэтая тэма ніколі яе не цікавіла.

**Севярын Квяткоўскі**

Дзьверы расчыніліся. У цемры я не адразу заўважыў, як пастарэў гаспадар майго маскоўскага прыстанку. Пасьля ж абдымкаў я нарэшце разгледзеў, наколькі зьмянілася сама кватэра. Дакладней, ад яе не засталося нічога. Дзе некалі ўзвышаліся стэлажы з кнігамі, былі адно толькі пустыя сьцены, аклееныя шарымі шпалерамі. Дыхтоўна й прыгожа зробленыя рукамі гаспадара фатэлі, камоды й сэкрэтэры часткова замяніла сьвежая іншаземная мэбля. Бліскучы фігурны паркет, матавае сьвятло мудрагелістых жырандоляў — усё навокал ствара́ла ўражаньне вельмі дарагога гатэльнага нумару. На мой няўцямны позірк гаспадар толькі махнуў рукою.

Седзячы на незнаёмай бліскучай кухні ды ўплятаючы яечню, я слухаў сумны расповед некалі жыццярадаснага маскоўскага чалавека. Сёньня хворага, самотнага ўдаўца, якога некалькі месяцаў таму кінуў любімы сын. Мяне не пакідала такое адчуваньне, быццам я прысутнічаю пры пастаноўцы бяздарнай, банальнай п'есы, адмыслова напісанай для заштатнага тэатрыка. Настолькі друґасным выглядаў сюжэт гэтага новага «Вішнёвага саду».

Неўзабаве пасьля сьмерці жонкі мужа падкошвае інфаркт. Пакуль ён ляжыць у шпіталі, ягоны сын — абавязкова новы рускі — цынічна падшуквае для таты месьцейка ў Доме састарэлых. І наводзіць у доме свой наварускі парадак.

У доме руйнуецца ўсё ад старой мэблі да масьнічнаў і выкідаецца на сьметнік. Старыя фаліянты на шматкі рве вецер пераменаў, спадчынныя фатэлі гніюць пад брудным даждžом. Іконы здаюцца ў антыкварыят. За тыдзень у некалі абжылым доме робіцца супэрсучасны й безгустоўны рамонт за 50000 даляраў. Былога гаспадара па вяртаньні дахаты ледзь не хапае паўторны інфаркт. З сынам адбываецца размова з рэплікамі кшталту: «Навошта я цябе хрысьціў?», «Ты забыўся, як мы начавалі ў доме Ясеніна?» і гэтак далей. Сын сыходзіць, бразнуўшы браняванымі дзьвярыма. Хворы бацька застаецца ў харомах для Майкла Карлеонэ, з жабрацкай пэнсіяй. Якую напалам дзеліць са старым катом. Попел танных папіросаў падае ў лазенцы на мармуровую падлогу з падагрэвам. Заслона.

«Няўжо ўсё, што я ўкладаў у яго з маленства, дарэмна?» — пытаўся ў мяне гаспадар. Ды што я мог адказаць? На жаль ці на шчасьце, але ў банальных расейскіх п'есаў не бывае шчасьлівага канца. І канец гэтай гісторыі ўжо маячыць недзе наперадзе.

**Зьміцер Бартосік**



паўстае Асоба, якая сваім духам мацуе цябе і дае надзею, твой шлях можа стаць сьветлым і пэўным. Сьвятарства айца Надсана, айца Чарняўскага, айца Матусевіча адкрыла той шлях для многіх.

Гэткім ці падобным чынам да рэлігіі зьвярталіся мае аднагодкі, якія знаходзілі сябе ва ўлоньні беларушчыны. Найперш вярталася мова, за ёй гістарычная сьведамасьць. Пасьля ўсьведамленьня сябе суб'ектам часу і зямлі, зьяўлялася прага повязі зь бясконцасьцю, знайсьці сабе апірышча, ці апраўданьне, у веры. Бадай, нехта знайшоў і Бога.



Здымак Анатоля Клешчука

Вера — гэта сваё. Яна вернецца ў Беларусь, калі Беларусь стане сваёй для беларусаў.

**Сяргей Харэўскі**

100 ТВОРАЎ БЕЛАРУСКАГА МАСТАЦТВА XX СТ.



# БАРЫС КАЗАКОЎ. СЬНЕЖАНЬ

Калі мы прамаўляем: «сьнежань» — у нашым уяўленьні паўстаюць зусім пэўныя асацыяцыі: Каляды, белыя гурбы, чорна-белыя карункі гальля ў пустых садах, птушкі, якія не адлятаюць з радзімы, пунсовы шар сонца ўранку і хуткім адвячоркам, сьвежына на сьнезе...

У «Сьнежні» Барыса Казакова сюжэт двубою чалавека й ягонае сьвіньні — неад'емнага сьнежаньскага рытуалу — становіцца косткай кампазыцыі, вакол якое нарошчваюцца дадатковыя аб'екты. «Сьнежань» — нетыповая праца Казакова. Перадусім тут ён спрабуе вырашыць праблему прасторы, увайсьці ў бясконцасьць пэрспэктывы шчыльнага, у прыцемках, зімовага паветра. Хоць вырашэньне ён знайшоў дэкаратыўнае, блізу мультыплікацыйнае: пляма аб'екту пазначае і сюжэтную лінію і ствараe плян.

У гэтым выяўляецца досьвед Казакова як тэатральнага мастака. Напрыканцы 60-х ён аздабляў спэктаклі ў тэатрах Менску і Магілёва. Дыяпазон ягоных сцэнічных сюжэтаў вялікі. Гэта і «Каварства й каханьне» Шылера, і «Мільянэрка» Шоў, і «Зорка Вэнэра». Дарэчы, менавіта афармленьне да спэктаклю «Зорка Вэнэра» Алтухова і Бур'яна, які быў упершыню пастаўлены ў Тэатры юнага гледача ў Менску, і стварыла Казакову славу аднаго з выдатных тэатральных мастакоў нашае краіны. Пасьля ён сьведама пакідае гэтую творчую галіну, дзе здолеў рэалізавацца з посьпехам, на тое, каб заняцца меншымі, станкавымі формамі. Аднак і ў станкавых творах Казакова папярэдні ўплыў тэатральнага жывапісу відавочны.

... Сярод тых расейцаў, што сталі мастакамі ў Беларусі, ёсьць творцы рознага маштабу. І парознаму яны бачылі й бачаць сваю місію. За рэдкім выняткам, як раней, гэтак і цяпер, большасьць зь іх ні ў якай ступені ня бачыць сябе менавіта ў беларускім кантэксьце. Гэткім выключэньнем стала творчасьць Барыса Казакова, які пераўвасобіў шэраг беларускіх мітаў: вёска, хата, карова-карміцелька... Ягоныя палотны — «Лазьневы дзень», «Вяртаньне дадому», «У Сяргеевічах», «У хляве», «Іван Сьцяпанавіч» перарастаюць у канцэптуальны шэраг вобразаў, зь якіх сатканае беларускае жыцьцё. І кожны з гэтых вобразаў грунтуецца на аб'ектах, якія ёсьць мітамі: малако, хлеб, віно, човен, хата, праца...

Адбор дакладных формаў, нібы словаў да вершу, робіць палотны Казакова амаль прыпавесьцямі, набліжаючыся да мяжы літаратуры. Напрыклад, карціны «Крыўда. Падлетак» ці «Цар-віно, цар-рыба» — гэта ўжо сюжэты, якія могуць стаць вартымі для ўвасабленьня ня толькі ў жывапісе...

Канцэптуалізм Казакова, ягоная пасьлядоўнасьць у вычэрпваньні тэмы, ці яе фрагмэнту, набывае часам парадаксальныя формы. Адзін з найбольш паказальных прыкладаў — гэта шэраг партрэтаў вучоных, якімі аздобленая заля паседжаньняў у Інстытуце глебазнаўства і аграхіміі. Самі партрэты ператвораныя ў дэкаратыўныя пано, якія адно за адным пазначаюць пэўныя зьбегі паняцьцяў, міты пра вучонасьць і навуку з усім наборам адпаведных аксэсуараў. У гэткім жа рэчышчы створаны і «Поры году», якія распачынаюцца палатном «Сьнежань. Тут беларускія месяцы мусяць выяўляцца праз наборы трывалых уяўленьняў пра парадак зямнога жыцьця.

Дастатковасьць — найпершы прынцып мастацтва Казакова. Колькі дастаткова мужчынаў, каб удала разьдзяліць парсюка? Двух. А жанчына дапамагае з вадою. Два мужчыны, адна жанчына, два вядры, адзін парсюк. Менавіта ў гэтай дастатковасьці і тоіцца сэнс слова парадак.

Калярыстычна цэнтар кампазыцыі сканцэнтраваны звышдакладна — на кропцы агню, якім смаліцца вяпрук. Гарачыя водбліскі ад яе па коле асьвятляюць саму дзею, якая кінэтычна разгортваецца ў нас на вачах. У марознай ранішняй смузе, калі ўжо пагасьлі зоры, але не ўсплыло сонца. Людзі варушацца сярод сьцюдзёнае, нямое прасторы. Нібы адныя на ўвесь белы сьвет...

Дзеля таго, каб прыцішыць драматызм сюжэту, у кампазыцыю дададзеныя птушкі — бесклапотныя істоты. Высока ў небе ляціць вольная галка, якая сваім стракатаньнем будзіць навакольную цішу. А па дыяганалі, у супрацьлеглым куце, ля сабачае будкі, сьвеціца другі агеньчык — пеўнеў грабянёк. Пеўня з кураю гаспадары зарэжуць ня сёньня, ня ў сьнежні..

**Сяргей Харэўскі**





**Казакоў Барыс** (1937, м. Балахна, Расея) жывапісец, тэатральны дэкаратар. У 1958 скончыў Горкаўскую мастацкую вучэльню, у 1964 — Беларускі тэатральна-мастацкі інстытут. З 1970 да 1974 выкладаў там-сама. Аздабляў спэктаклі ў тэатрах Менску і Магілёва.

# НЕАКРЭСЬЛЕНАЯ НАДЗЕЯ

*Барока ў беларускай культуры і мастацтве / Пад рэд. В.Шматава. Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклёру НАН Беларусі. — Менск: Беларуская навука, 1998. — 304 с., 129 іл. ISBN 985-08-0239-1*




Сыстэма прыярытэтаў спажыўца фармуецца пад уплывам ня столькі сапраўдных вартасьцяў, колькі штодзённага, штохвіліннага перакананьня ў якасьці, карысьці (або проста *наяўнасьці*) тых ці іншых рэчаў. Кожная рэцэнзія — таксама своеасаблівы рэклямны праспэкт (усё роўна, са станоўчым або адмоўным знакам), такі сабе акт інфармацыйнае агрэсіі, *nota bene* на палях кнігавыдавецтва.

Аб'ект гэтай рэцэнзіі (або спробы рэцэнзіі) сапраўды варты ўвагі: гэта кніга «Барока ў беларускай культуры і мастацтве». Яна ня выклікала вялікага ажыятажу, нягледзячы на тое, што сваім зьяўленьнем закрыла значную «дзірку на шпалерах» (калі «шпалерамі» лічыць гісторыю беларускай культуры) — сталася першай у нашай краіне грунтоўнай працай, прысьвечанай такой эстэтычнай зьяве як барока і ягонай «праекцыі» на беларускую культурную прастору. Нетыповасьць кнігі, яе адрознасьць ад выданьняў гэткага кшталту ў тым, што «Барока ў беларускай культуры і мастацтве» — не маналітная навуковая манаграфія, а зборнік матэрыялаў канфэрэнцыі, што адбылася ў ІМЭФ АН РБ (1994 г.). Дзякуючы разбурэньню стэрэатыпнай формы навуковай працы — замкнёнай, суб'ектыўнай, напісанай адным аўтарам — зьмяняецца характар засваеньня інфармацыі. Чытач атрымлівае магчымасьць самастойна вызначыць межы кантэксту, у якім будзе адбывацца ўспрыманьне (або неўспрыманьне) тэзаў і пастановаў кнігі, агульная канцэпцыя якой вымалёўваецца са стракатай мазаікі супадзеньняў і супярэчнасьцяў у поглядах аўтараў асобных артыкулаў, тады як манаграфія — «адфарматаваная» загадзя, зьнітаваная агульнай суб'ектыўнасьцю, замкнёная сама на сабе, паўстае перад чытачом як самадастатковы аб'ект згоды/нязгоды ў перадвызначаным аўтарам кантэксьце.

Зь іншага боку, адмоўнай рысай такога зборніка можа падацца вузкаспэцыфічнасьць тэматыкі асобных дакладаў, якія, нібыта, не фармуюць агульнага погляду на ўзьнятую праблему. Аднак падбор дакладаў і іх чарговасьць даюць вельмі маштабнае ўяўленьне пра гісторыю і тыпалёгію беларускага барока. А «вузкаспэцыфічнасьць» асобных пытаньняў дапамагае скіраваць увагу на канцэптуальныя акцэнты дадзенай праблемы. Нельга сказаць, што аўтары артыкулаў замыкаюцца ў мастацтвазнаўчых і эстэтычных пытаньнях тэорыі барока. Іх працы ўтрымліваюць шмат гістарычнай і культуралягічнай інфармацыі, якая стварае агульны фон эпохі — кантэкст для тэматычна дыфэрэнцыяваных артыкулаў. Вытрыманая ў агульным ключы й мова кнігі — яна лёгка ўспрымаецца ня толькі прафэсіяналам-мастацтвазнаўцам, але й неабазнаным аматарам (то бок, як той любіў казаць раней, «разьлічаная на шырокага чытача»). Акрамя таго, выданьне нядрэнна ілюстраванае (шкада толькі, што ілюстрацыі не каляровыя).

Ідэалягічна-канцэптуальная афарбоўка кнігі, як і паліграфія, асаблівай стракатасьцю не вызначаецца. Асноўная маса артыкулаў вытрыманая ў традыцыях антыкаляніялізму, на які мы ніяк ня можам перахварэць. Зь іншага боку, шчыра цешыць тое, што ўрэшце (хоць і з жудасным спазьненьнем) і беларусы зразумелі, што калі яны і надалей будуць нерашуча таптацца вакол уласных культурных здабыткаў, што з тых ці іншых прычынаў маюць нейкае адценьне спрэчнасьці — у іх не застанецца нічога, бо навуковая этыка ў вырашэньні пытаньняў прыналежнасьці культурнай зьявы зводзіцца да вядомага расейскага выслоўя «кто первый встал, того и тапки». Так, напрыклад, у аналягічных расейскіх і ўкраінскіх дасьледаваньнях праблемы ўсходнеславянскага барока Беларусь, як адметны шлях у дадзеным накірунку, яе дасягненьні, як уплыў на суседзяў (тых самых расейцаў і ўкраінцаў) — ня згадваюцца наогул. І гэта заканамерна — чаму хтосьці павінен рабіць нашую працу за нас? Хто, як ня мы, мусіць захоўваць і вывучаць тое, што зьбераглося, нейкім чынам перажыўшы часы бульдозэру й дынаміту? І ці надоўга нас хопіць, калі мы будзем кожныя колькі соцень гадоў пачынаць спачатку?

Кніга не дае адказаў на гэтыя пытаньні, яна нават не акрэслівае іх — проста актуалізуе, выклікае аднекуль з падсьвядомасьці, каб разам з сумненьнямі падараваць і неакрэсьленую надзею, якая ўтрымліваецца ня ў тэксьце і нават не ў кантэксьце кнігі. Яна — у мяккім сьвятле, якое выпраменьвае мастацтва барока — адно з найдасканалых супольных стварэньняў Бога і чалавека, якое ўзвышаецца над катэгорыяй часу, не суадносіцца зь ёй, як побач з царквой Сьвятога Духа — насамрэч кляштарам бэрнардынаў — не ўспрымаецца ні шэрая будзённасьць праспэкту Машэрава, ні штучны бляск Траецкага прадмесьця.

**Андрэй Скурко**

# ЗБОР НЕЗВЫЧАЙНАГА

*Скульптура і разьба Беларусі XII-XVIII ст.: Каталёг / Аўт.-укладальнік Н.Высоцкая; Маст. В.Бурмакін, В.Мінько. — Менск: БелЭн, 1998. — 224 с.: іл. ISBN 985-11-0131-1*



У нашай навуцы няшмат выдаецца мастацкіх каталёгаў, каб мы не заўважылі сыстэматызаванага выданьня збору скульптуры Нацыянальнага мастацкага музэю. Гэтая незвычайная кніга, якой наканавана доўгае жыцьцё, ахоплівае творы XII—XVIII ст., на працягу якіх мастацкія стылі не аднойчы наступалі адзін аднаму на пяткі. Асабліва цікавае XVI ст., калі, як адзначаецца ў каталёгу, заўважныя рэмінісцэнцыі раманскага стылю, выбух так званай іміцыйнай готыкі і зьяўленьне твораў у традыцыях Рэнэсансу. Барока ў архітэктуры, скульптуры, разьбе, лепцы Беларусі пратрымалася ўсё XVII ст. і тры чвэрці XVIII ст. Пасьля такога ўступу незразумелым выглядае падзел матэрыялаў каталёгу паводле каляндарных стагодзьдзяў — XVI, XVII і XVIII, якія, быццам бы, «вызначаюць асноўныя этапы развіцьця даўняга мастацтва Беларусі». Каталёг уражвае ня столькі разнастайнасьцю і мастацкімі вартасьцямі музэйнага збору, колькі сьведчаньнем таго, што ня ўсё ў Беларусі было зьнішчана, разрабавана і прададзена. Захаваліся нават некаторыя скульптуры са збору Беларускага музэю ў Вільні, нават зь першай выставы беларускага мастацтва ў Менску ў 1918 годзе! Нацыянальны мастацкі музэй можа ганарыцца — «беларуская пластыка аказалася ў авангардзе скульптуры і разьбы Ўсходняй Эўропы», як слушна заўважана ў кнізе. Першы дзьвюхмоўны варыянт каталёгу (датаваны 1987 г.) не дачакаўся выданьня, так што прыйшлося яго «рэанімаваць». На гэта пайшлі, канечне, вялікія высілкі, аднак беларуская «палова» тэксту пры гэтым, на жаль, згубілася незваротна.

У каталёгу шмат цікавых працаў. Незвычайна выглядае найстаражытнейшая беларуская каталіцкая скульптура — расьпяцьце канца XIV ст. зь в. Галубічы Глыбоцкага раёну. Паводле каталёгу яна — сучасьніца каталіцкага хросту Літвы і Беларусі, учыненага Ягайлам у 1387 г. Гістарычная верагоднасьць гэтага сумнеўная, а з мастацкага боку яна больш падобная да познеготычнага твору. Готыка на нашых землях жыла незвычайна доўга — ня толькі ўсё XV ст. (якім можна датаваць галубіцкае расьпяцьце), але і амаль усё XVI ст. (найбольш верагодная, як па-мойму, дата стварэньня расьпяцьця). Наступную паводле храналёгіі скульптуру, архаНёла Міхала, таксама можна датаваць ня толькі другой паловай XV ст., але й пачаткам XVI ст. Зашмат у каталёгу ананімных выяваў, ідэнтыфікаваць якія, пэўне, можна было б. «Сьвяты ў рыцарскіх дасьпехах» — скульптура сьвятога караля з уладарніцкім вянцом на галаве. Сьвятых каралёў няшмат, і тут адзін з найбольш папулярных — сьв. Жыгімонт, бургундзкі кароль VI ст. Скульптура № 33 — гэта доўгавалосы безбароды мужчына, вельмі падобны да сьв. Яна Багаслова, а не да цара Давыда. У безбародым «Біскупе рымскім» (№ 40) мне бачыцца папа Рыгор, а ва «Ўніяце» (№ 184) — сапраўды Язафат Кунцэвіч, да чаго, зрэшты, схіляецца і аўтар каталёгу.

Асобныя творы беларускай скульптуры даюць прыклады незвычайнага спалучэньня каталіцкіх і праваслаўных рысаў. Расьпяцьце 1696 г. майстра Казіміра Круповіча вызначанае як «каталіцкага тыпу», але адразу прыведзеная яго магчымая крыніца — гравюра з праваслаўнага кіеўскага «Акафісту» 1677 г. Значыць, скульптура не зусім каталіцкага тыпу, і Хрыстос на крыжы мае «па-праваслаўнаму» гарызантальныя рукі. На каталіцкіх крыжах цела Збаўцы глыбока правісае на руках (дарэчы, у каталёгу напісана: «рукі Хрыста прыпаднятыя і разьведзеныя ўбакі», хоць такое практыкаваньне зрабіць на крыжы немагчыма).

Кароткa пра іншае заўважанае. Скрупулёзнасьць каталёгу ў некаторых выпадках пераходзіць пэўную мяжу, так што старанны збор фактаў з розных крыніцаў абясцэньвае вынік: «У Полацку касьцёл езуіцкі з калегіюмам вядомы з 1580, 1686, 1694, 1696 г.», сьв. Ян Непамук «кананізаваны... ў 1721 (1722, 1729, 1736) г.». «Левы» бок на здымках часам адпавядае «праваму» боку ў тэксьце. У пачатку кнігі прыгадана выкарыстаньне для работы экзатычнага кітовага вусу, але знайсьці яго ў тэксьце каталёгу не ўдаецца. «Страчаны палец левай рукі», пэўна, выклікаў у скульптуры гангрэну, бо на здымку няма ўжо ўсёй канечнасьці. Бязрукага сьв. Георгія спачатку падазраюць, што ён быў узброены мячом, а пасьля — кап'ём.

У цэлым жа каталёг каштоўны ня толькі тым, што ў ім зьмешчаныя амаль усе «адзінкі» скульптуры і разьбы з музэю, але й шматлікімі дадаткамі. Маецца пералік дрэваапрацоўчых інструмэнтаў, пігмэнтаў, зьвязных рэчываў, лякаў, грунтоў, тэрміналягічны слоўнік, а таксама слоўнік разьбяроў і скульптараў (асобна пералічваюцца беларускія майстры, што працавалі ў Расеі ў XVII—XVIII ст.). Сьпісы майстроў уражваюць сваёй даўжынёй. Мо, ня варта было іх разводзіць іменамі цесьляроў і сталяроў. Тыя, канечне, маглі часам змайстраваць «штуку», але сапраўдных мастацкіх майстроў у Беларусі звалі «разьбяры» і «сьніцэры». Карыстаньне рознамоўнымі крыніцамі, у большасьці выпадкаў «праз другія рукі», дало нечаканыя вынікі пры перадачы іменаў на расейскай мове. «Змоденценсис Стефан» пры правільным перакладзе з лаціны павінен абярнуцца ў «Стафана Жамойта», «Шанко» пры слушнай трансьлітэрацыі са старапольскай — гэта «Санька», а «Шиманович Ячко» па праўдзе «Яцка Сямёнавіч».

У сьпіс беларускіх майстроў унесеныя й віленскія ўмельцы. А як жа інакш!

**Валеры Пазьнякоў**

# НОВЫЯ КНІГІ, ДАСЛАНЫЯ Ў РЭДАКЦЫЮ

Грымаць А. і інш.: Мэтад. дапам. / А.Грымаць, Л.Варанецкая, У.Пашкевіч. — Народная пэдагогіка беларусаў. — Менск: Выд. Ул.Скакун, 1999. — 256 с. — Наклад 5000 ас. ISBN 885-6235-13-8

Кантакты і дыялёгі. Інфармацыйна-культуралягічны бюлетэнь Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў і Беларускага таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі. — № 2-3 (38-39). Люты-сакавік, 1999. — 64 с. — Наклад 299 ас.

Лукашук А. У фіялетавай ночы вугал крыла. Дакумэнтальная проза. — Наша Ніва (Бібліятэка «Вострая Брама», 3), 1999. — 160 с. ISBN 9986-92-19-6-1

Новы запавет / Пер. айца Ўладзіслава Чарняўскага. — Менск, 1999.

Права на волю. Бюлетэнь праваабарончага Цэнтру «Вясна-96». № 3 (27), № 4 (28) 1999.

Шалькевіч В. Гісторыя палітычнай і прававой думкі Беларусі: Навучальны дапаможнік (Сэрыя «Гісторыя Бацькаўшчыны», дадатак да часопіса «Права і эканоміка») — Менск, 1999. — 200 с. — Наклад 250 ас.

Юрэвіч Л. Камэнтары. Літаратуразнаўчыя артыкулы. — Менск, 1999. — 302 с. — Наклад 500 ас.

Бектинеев Ш. Формирования российской армии с белорусскими наименованиями. — Менск: Арти-Фекс, 1999. — 116 с.: ил. — Наклад 200 ас. ISBN 985-6119-25-1

Лиокумович Т. Потомки А.С.Пушкина в Беларуси. — 2-е выд. —Менск: Унівэрсытэцкае, 1999. — 168 с. — Наклад 4000 ас. ISBN 985-09-0221-3




На пачатку году ў Нью-Ёрку выйшла **кніга ўспамінаў Яўхіма Кіпеля «Эпізоды»**. Я.Кіпель – асоба дапраўды легендарная: у 20-я гады – кіраўнік менскага маладзёвага клюбу «Беларуская Хатка», супрацоўнік Інбелкульту, у 30-я – савецкі зэк, у 1944-м – старшыня II Беларускага Кангрэсу, у 50-я – адзін зь лідэраў беларускай эміграцыі ў ЗША... Захапляльнае апавяданьне пра сустрэчы зь Янкам Купалам і Якубам Коласам, з бацькамі нацыі Вацлавам Ластоўскім, Язэпам Лёсікам, Вацлавам Іваноўскім, сяброўства зы Зьмітрам Жылуновічам, супраца з кіраўніком беларускага супраціву ў часе нямецкае акупацыі кс. Вінцэнтам Гадлеўскім, спатканьні з расейскім генэралам Уласавым. Кніга поўная найцікавейшых сьведчаньняў пра вызначальныя падзеі беларускае гісторыі.

Выданьне можна замовіць па тэл. (017) 283-24-10.



**Кнігу дзіцячых песень «ДУДАРОЧАК»** (з нотамі і мэтадычнымі ўказаньнямі), складзеную І.Лосікам і Л.Скаромнай, можна замовіць па тэл. (017) 227-78-92

СЛОЎНІК ПАНЯЦЬЦЯЎ

## § 3. ПРА ГАСПАДАРЧУЮ НЕАБХОДНАСЬЦЬ І ЭКАНАМІЧНУЮ МЭТАЗГОДНАСЬЦЬ.



Мы з маім знаёмым N любім пагодным дзяньком пахаджаць вакол нашага мікраёну. Падчас гэткіх праходак мы вядзем зацікаўлены дыялёг. Убачыўшы нейкіх спрытных маладзёнаў у вялікім самаходзе маркі «Форд», мой спадарожнік са скрухай у голасе адзначае: «Ну, хіба яны разумнейшыя за мяне — дык чаму ж яны маюць машыну, а я не?» Пасьля невялікай паўзы мне даводзіцца неадкладна рэагаваць: «Відаць, тут загваздка не ў мазгох, а ў празе жыцьця — менавіта своеасаблівая вітальнасьць вызначае гэткую лінію іхных паводзінаў».

Беларусы ў сваёй масе неабыякава ставяцца да вырабаў-вынікаў індустрыйнай культуры. Ім падабаюцца буйнатаннажныя аўтамабілі, іх вабяць коміны прадпрыемстваў агульнарэспубліканскага падпарадкаваньня і пахі вялікіх гарадоў. Новы час прыносіць новыя замілаваньні: рэдкі беларус устаіць перад вялікім патрыманым аўтамабілем нямецкай або японскай вытворчасьці.

Раскрыўшы якую-небудзь беларускую газэту, мы пабачым на яе старонках сымбалічнае адлюстраваньне гэтай неабыякавасьці. «Нарошчваць тэмпы вытворчасьці калійных угнаеньняў — надзённая патрэба сёньняшняга дня», «Пасьля непрацяглага спыненьня зноў запрацаваў канвэер МТЗ — флягману беларуска-расейскай інтэграцыі», «Дваццаць рабочых Менскага заводу колавых цягачоў за выпуск ня маючай у сусьветным маштабе аналягаў прадукцыі былі ўзнагароджаныя прэзыдэнтам Расейскай Фэдэрацыі», «Вырабы Жыткавіцкага матарабудаўнічага заводу карыстаюцца ўсё большым попытам».

Афіцыйныя сродкі масавай інфармацыі па старой традыцыі бурна асьвятляюць падзеі, зьвязаныя з «народнай гаспадаркай», і традыцыйна змаўкаюць, калі гаворка заходзіць пра стан мовы і культуры тытульнай нацыі (паняцьце культуры ўсё часьцей асацыюецца ў іх з гастролямі заежджых расейскіх тэатральных трупаў). Сапраўды, чаго вартая гэтая мова перад абліччам нечуванага эканамічнага росту і аднаўленьня адзінай эканамічнай прасторы?

Гіпэртрафія індустрыі плянамерна насаджалася ў Беларусі — перадусім як эфэктыўны сродак русіфікацыі, прывязкі ўскраіны да цэнтру. Імпэрская ідэолягі нэакаляніялізму ніколі не цураліся нігілісцкага душку. Для іх абароназдольнасьць «радзімы», яе «эканамічная бясьпека» заўсёды былі катэгорыямі найвышэйшымі, у параўнаньні зь якімі нейкая «ўскраінная» традыцыйная культура блякла й губляла хоць які сэнс і значэньне. Вірус гэтага імпэрскага нігілізму надзейна пераховаецца людзьмі ў белых халатах ажно дагэтуль: беспамылковым сьведчаньнем гэтага зьяўляецца так і непераадоленая тэндэнцыя мысьліць у тэрмінах «гаспадарчай неабходнасьці» і «эканамічнай мэтазгоднасьці».

У чыіх інтарэсах захоўваць такі стан рэчаў — з аднаго боку, вульгарна абагаўляць буйную прамысловасьць, падпарадкаваную дзяржаве, бачачы ў ёй заруку будучай стабільнасьці, а з другога — брудна таптаць нагамі мову, нягледзячы на тое, што яна, у адрозьненьне ад прамысловасьці, зьяўляецца калектыўным творам дзясяткаў пакаленьняў беларусаў, думаецца, тлумачыць ня трэба.

Вось так і жывем: чужымі нацыянальнымі інтарэсамі.

**Валерка Булгакаў**

# МАЛАЯ ПАДАРОЖНАЯ КНІЖЫЦА

***22 сакавіка, панядзелак, Ворша.*** У РАФікумаршрутцы сядзіць кандуктар. Гэта — на дзесяць пасажыраў максымум. Так бы мовіць, барацьба зь непрацоўнымі даходамі шафёра. А ў кандуктара яны працоўныя?

***Бобр.*** Сустракае Алесь Пушкін. Увесь у чорным. Начышчаныя боты, пад пахай — тэчка. Ходзіць трэці дзень па Бабры і высьвятляе ў людзей, каго б тыя хацелі ў прэзыдэнты. Карціна наступная: зь дзесяці мясцовых — тры цьвёрда «за Луку», пяцёра — балота: нікому ня вераць, і — па адным за Пазьняка з Чыгіром. «Але за Пазьняка ўсё ж больш», — кажа Алесь. Увогуле, бабруйскія самазабясьпечваюцца: у кожнай хаце бочкі, мяшкі, скрыні з прадуктамі — так любую ўладу можна перабываць. Крочым да пушкінскай сядзібы. Па дарозе Алесь паказвае на прыватныя крамкі з таньнейшымі за дзяржаўныя таварамі, падводзіць да царквы, пабудаванай на народныя сродкі за Гарбачова. Сам Пушкін набыў для царквы звон за шэсьцьдзесят баксаў і бясплатна расьпісаў яе фрэскамі. Царква зачыненая, але Алесь кажа, што мае ў хаце свой ключ ад храма: «паямо і зойдзем», але зайсьці не выходзіць. Сядзім, п'ем каву. Стук. Участковы. Апраўдваецца, што чалавек ён паднявольны, але мусіць везьці Пушкіна ў Крупскі РАУС на размову, бо так загадаў начальнік. Коцім утрох на міліцэйскім «Жыгулёнку». Пра мяне Алесь кажа як пра рок-музыку. Участковы — аматар панку. Пра панк і размаўляем.



***Крупкі.*** Пушкін прапануе мне выйсьці ля школы, дзе працуе наш сябра Андрэй Аляхновіч. Школа сталінскай пабудовы нагадвае гарадзенскую турму. Калі выходзім з Аляхновічам, бадзёры Пушкін крочыць насустрач. Маўляў, размова прызначаная на другую. А пакуль — рэдакцыя раёнкі «Ленінскім курсам». Алесь дае аб'яву, што набудзе зруб пад лазьню — знайшліся аматары яго творчасьці ў Нямеччыне і, адпаведна, грошы. Дамаўляемся, што калі праз гадзіну Пушкін не вернецца з РАУСу, пойдзем з Аляхновічам вызваляць. Гляджу матэрыялы тутэйшых археалягічных раскопаў і слухаю расповеды пра Малое Палесьсе (так геаграфы завуць рэгіён Крупак). Ля трэцяй прыходзяць Аляхновічава жонка Натальля і Яніна Пушкіна. Завіхаюцца ля стала, а мы з Андрэем рушым да РАУСу. З-за дзьвярэй кабінэту начальніка міліцыі Зімніцкага даносяцца галасы трох чалавек. Там яшчэ й раённы пракурор. Начальніцкі голас лае Басаева ды іншых чачэнскіх змагароў. Тады — ізноў глухая размова. Нарэшце ля дзьвярэй гучыць: «Пішыте лучшэ картіны, Александр Нікалаевіч». З абеду ледзь пасьпяваю на электрычку. Без квітка. Хлопцы супакойваюць: там будуць прадаваць, а не — скажаш: «ад Беражка».

***Менск.*** На занятках у Беларускім Калегіюме Ігар Бабкоў даводзіць, што, каб разважаць пра сутнасьць чалавека, трэба яго ўпісаць у пэўную мадэль сьвету.

***24 сакавіка.*** Ля прадуктовай на Дарашэвіча пад сотню чалавек стаяць па яйкі.

***25 сакавіка, Гомель.*** Бамбяць Югаславію. Уразіла, што й Чарнагорыю таксама. А калі б бамбілі Беларусь зь яе казармамі ва Ўручча, Баравусе, Пячах, аэрадромам пад Воршай і РЛС пад Баранавічамі? Ні Хусэйна, ні Кадафі бамбардаваньнямі ня скінулі.

***27 сакавіка, Ворша.*** Гена й Ларыса — «духоўныя кіраўнікі» Культурна-Асьветніцкага Цэнтру імя Караткевіча — вырашылі павіншаваць усіх аршанцаў з Днём Волі праз мясцовую тэлекампанію. Падрыхтавалі тэкст, пазычылі ў касьцёле відэакасэту з кліпамі віцябляніна Савельева, узялі грошы, пайшлі замаўляць. Галава тэлекампаніі Сяргей Бойка адразу ж запраціўся: няма ў нас дыктара, які б валодаў беларускай мовай. Гена й Ларыса прапануюць відэатэкст без агучваньня: «КАЦІК віншуе з Днём Волі ўсіх шчырых беларусаў». Бойка катэгарычна супраць Дня Волі: «У меня отберут лицензию!» Кліпы Савельева таксама адмятаюць: там усюды бел-чырвона-белыя спалучэньні. У выніку, Гена й Ларыса сядзелі і віншавалі аршанцаў з Днём Волі з хатніх тэлефонаў.

***Доўск.*** Браты, як зазвычай, на рыбе. Наконт майго праекту з канцэртам: новы дырэктар школы адмаўляе любыя рок-канцэрты — хопіць сустрэчаў выпускнікоў раз на год. Узорная СШ.

***Гомель.*** Цяплынь. Усюды гараць сухатраўе. Яек і масла ў магазінах няма, малако — дзіцячае ў пакецiках па 200 г, 20 тысяч за пакет. Увечары тэлефануе знаёмы фэрмэр. Патравілі яму буйную жывёлу — пяць кароў і каня. Добра шчэ, што не самога фэрмэра.

***1 красавіка, чацьвер, Бобр.*** Зноў у Пушкіна. Яго размова з пракурорам раёну мела працяг. Даслалі паперку за подпісам старшыні пассавету: «Александр Николаевич! 30 марта 1999 года приглашаю тебя явиться в Бобрский пос. Совет к 11.00. С тобой из г.Борисова должен

# ЛЕТАПІС ДЗЯЖУРСТВА ПА-БЕЛАРУСКУ, АБО ГІСТОРЫЯ ХВАРОБЫ АДНОЙ РЭЧАІСНАСЬЦІ

Яшчэ калі ўзрост мой не сягаў за межы аднназначных лічбаў, навагодняя ўрачыстасьці ніколі не абыходзіліся бяз працэсу самых неверагодных жаданьняў. Усе зьдзяйсьняліся. З часам іх робіцца менш і менш, але збываюцца яны значна радзей.

Оскар Уайльд меў рацыю, перанасычаючы калісьці «Дарыяна Грэя» афарыстычна абламанымі парадоксамі кшталту «Забойства — заўсёды промах» ці «Жанчына — істота дэкаратыўная». Хто будзе аспрэчваць згаданае сёньня, калі наўкруг — адныя недарэчнасьці.

Сёньня — Дзень без чужога слова. Гадзіньнік заведзены на палову сёмай. Дакладна а шостай чуецца пранізьлівае і патрабавальнае мяўканьне Мілорда: яшчэ ўчора скончыліся ягоныя «сухія сьняданкі». На крайні выпадак у лядоўні ёсьць колькі курыных галоваў. Іду да суседкі, прашу выцягнуць іх з халадзільніка і пакласьці жывёлінцы. Незадаволеная раньнім візытам, яна змрочна ўздыхае : «Головы вытянуть боишься, а по-белорусски смело говоришь».

Да сьнеданьня далёка, выцягваю з паліцы «Hiroshima mon amour» спадарыні Дзюрас. Дайшоўшы да «C'est comme l'intelligence, la folie, tu sais. On ne peut pas l'expliquer», выпрашаю, што годзе, і занатоўваю гэтыя фразы на аркушы, які вісіць над пісьмовым сталом. Вялікімі літарамі яшчэ зь нядзелі там пазначана: «Я скажу тебе с последней Прямотой: Всё лишь бредни — шерри-бренди, — Ангел мой»...

Пішу дзяжурнага ліста бабулі і дзядулі, ушчуваючы сябе за чэрствасьць: апошнія гадоў пяць ніяк не пазбаўлюся ад пачуцьця «дзяжурнасьці».

Звоняць у дзьверы. Адчыняю: сусед з чацьвертага паверху. Патрэбны які-небудзь зборнік вершаў («только чтоб не тяжелый!») — урок літаратуры ў ПТВ. Падхопліваю гаворку па-беларуску — ён быццам ніякавее. Ну што ж, вядома, «le langage est la source des malentendus». Моўчкі аддаю «Скрыжаваньні» Глёбуса.

Сьнедаю. Мыючы посуд, адчуваю: наступіла на нешта вострае. Гляджу пад ногі — уся падлога ў курачых дзюбах.

У электрычцы дачытваю апошні «ЛіМ». «Адгукаюся» на нумар, пазначаючы ўнізе радок з таго ж Мандэльштама: «Душно — и всё-таки до смерти хочется жить». Чамусьці згадваю «Аўтобус колеру бэз» Сідарукоў. Штосьці ніяк не магу прыстасаваць гэтае апавяданьне да катэгорыі вечнасьці.

«Наша Ніва» — унікальнае выданьне. У сэнсе стварэньня канцэптаў. У Плятона — «ідэі», у Ляйбніца — «праўда», у Цьвятаевай — нават «стол». Дамінуючым канцэптам «НН» да нядаўняга часу была, па-мойму, «нянавісьць», але высакародная. Ён, дарэчы, і стварае своеасаблівы німб над выданьнем.

З вакзалу накіроўваюся ў Пушкінскую бібліятэку, каб дачытаць «дзяжурную» кнігу, Розанава. Па дарозе раздумваю, ці могуць быць у рэальным жыцьці Нагелі (што ні кажыце, варты ўвагі пэрсанаж, геніяльна выпісаны геніяльным пісьменьнікам); Арля ці Замзу некалі ж прыдумалі, а яны — рэчаіснасьць...

Пасьля — дахаты. Лісты з Кітаю і Сымфэропалю. Праглядаю стосік «ЛіМаў», гартаю Гарэцкага. Колькі разоў перачытваю «Фантазію».

Званок. Спадар М. пытаецца пра настрой. Вырашаем зрабіць сьвята. Добры суразмоўца і добрая кава — усё ёсьць.

Той раз абмяркоўвалі зь ім «Радзивиллов...» Багадзяжа й Масьляніцынай, дакладней, лаялі. (Якім слэнгам напісаная гэтая кніга? І няўжо ня сорамна прыкрывацца папулярызацыяй гістарычнае мінуўшчыны?) На гэты раз пэўна

встретиться работник органов госуд. власти. Прошу не игнорировать». «Работник органов» прадставіўся як Сяргей Міхайлавіч Гапееў — старлей, опэрупаўнаважаны Барысаўскага УКГБ. Старшыню пассавету зь ягонага кабінэту на час сустрэчы з Пушкіным прыбраў. Алесь паставіў умовай размаўляць толькі па-беларуску. Старлей пагадзіўся, але пратакол адначасова пісаў на расейскай. Дамагаўся ад Пушкіна прызнаньня, што той зьбіраў подпісы за кандыдатаў у прэзыдэнты. Алесь не прызнаўся й пратаколу не падпісаў. Да Вялікадня Алесь пасьпіцца, робіць для Бобрскай царквы дзьве вялікія выявы Хрыста на дыхце. Надвячоркам заходзім у царкву. Частка фрэсак зьлева ад уваходу разбураецца ад вільгаці — будаўнікам забракла грошай, каб дарабіць дах.

**4 красавіка, нядзеля, Крупскі раён.** З Андрэем Аляхновічам на ягонай «аўдзюсе» швэндаемся па паганскіх капішчах Малога Палесься. Ля самой шашы мінаем «сьвяты дуб» — адзін з дванаццаці колішніх волатаў. Дарожныя службы здаўна намагаліся яго сьпілаваць, але людзі тутэйшыя не далі. У Старой Слабадзе да нас далучаецца дырэктар мясцовай школы Міхал Адамаў сын Баравуля — былы аднакурсьнік Лукашэнкі ды руплівы краязнаўца. Адамыч зьнешне падобны на Сокалава-Воюша. І таксама піша вершы зь песьнямі. Але краязнаўства перамагае. Наведваем разам велізэзную паганскую абсэрваторыю са шматвыяўным валуном на чале кампазыцыі і курганамі, што паўтараюць Вялікую Мядзьведзіцу, «божае крэсла», што лечыць радыкуліты, «паганскія могілкі» з магічнай сымболікай і беларускімі кірылічнымі надпісамі паэта Івана Алексеевіча, адзін з твораў якога ходзіць па Менску ў выглядзе беларускага дзіцячага фальклёру. Алексеевіч жыве ў Сомрах — вёсцы з паганскімі культамі. Тутэйшую царкву спалілі ў 1942-м партызаны, а большасьць іконаў паніпчыў яшчэ да вайны дасланы з Воршы настаўнік Урода Аўсюк. Сомраўцы штогод ладзяць «Піва» — крывавае родавае сьвята, замест Пасхі сьвяткуюць «шулу» і пакланяюцца дубам, камяням ды крыніцам. Выдаць Алексеевічу зборнік зьбіралася сама Данута Бічэль.

**Андрэй Мельнікаў**

абыдзецца без адрэналіну — «Ritter, Burgen und Turniere» Stephan'a Kühn'a.

Ля поўначы я ізноў дома. Яшчэ трэба праглянуць чарговыя разьдзелы зь Біблії.

Так аддзяжураны Дзень без чужога слова не па графіку (шчыра-шчыра — ні разу ніводнага слоўца не вымавіла па-расейску, а што да нямецкіх, ангельскіх... Ды хіба ж яны чужыя?).

Застаецца адно няпэўнасьць. Часам так бывае напярэдадні новага дня; часам так нагадвае пра сябе стома ад дзяжурных вершаў, газэтаў, кніг, усьмешак, камплімэнтаў, сымпатыяў у абавязковым парадку — дзяжурных. А калі-небудзь зь іх народзіцца ня менш дзяжурнае каханьне (Андэрсэн даўно ператварыў «вялікае сардэчнае пачуцьцё» ў шум, скуль тое некалі выйшла Афрадытай. Тонкі псыхоляг, ён да ўсяго чалавецтва ставіўся як да дзіцяці. Куды нам да яго са сваімі зьведзенымі да эгацэнтрызму амбіцыямі!).

Сёньня я спрычынілася да «гетто избранничества» (трапнае цьвітаеўскае), дзе за мову — судзяцца. Але, спадарове, як справу ні павярні, клопату — хоць расьперажыся. Згадайма Пракрава: «А людзі, глянуўшы на Сонца, Адказ казалі грамадой: «Па колькі нам дасі чырвонцаў, Калі мы пойдзем за табой?..»

**Ліда Куратава, Дружны**

# БАЙКІ ЖЫЦЬЦЯ. СТРАХ

*Працяг са старонкі 1.*

Між тым, дзяржаўнае бытаваньне доўжылася; адзін за адным мільгалі гады ўладараньня дынастыі Галабурдахама. Прамільгнулі таксама дынастыі Парастурфуджына 1, 2 і 3. Парастурфуджын 4 перайменаваў сябе ў Страхалюда Першага, так было болей звыкла, а краіну — у Страхалюдыю. І слушна зрабіў, бо за шмат гадоў уладараньня пад эгідай страху людзі амаль страцілі ўсе ранейшыя антрапалягічныя рысы і набылі зусім новыя. Найперш у краіне даўно ўжо ніхто не сьмяяўся, нават перасталі ўсьміхацца; весялосьць успрымалася як блюзьнерства. Самым мілым выразам дзявочага твару стаў выраз спалоху. Старыя ж людзі за сваё доўгае жыцьцё вывалі на тварах такі жахлівы выраз, які выклікаў дрыжыкі. Менавіта тое і патрабавалася. Самых лепшых у гэтым сэнсе ўзнагароджвалі і шанавалі. Узьнікла і пасьпяхова разьвівалася музычнае і пясьнярскае мастацтва ў стылі *страх-мадэрн*, — калі ад музыкі са сьпевамі ў слухачоў валасы на галаве станавіліся дыбарам. Гэта вельмі падабалася ўладам і вэтэранам-доўгажыхарам.

Навука таксама не стаяла на месцы, плённа разьвівалася пад узьдзеяньнем жыватворных страхавітых ідэяў. Пісаліся манаграфіі пра сакральную структуру Страху, ягоную мэтафізычную сутнасьць. Вучоныя ўпарта дасьледавалі таямнічы ўплыў слаўтага гаршчэчка на стан атмасфэры і стратасфэры, сувязь яго нябачных выпраменьваньняў з пэрыядычнасьцю плямаў на сонцы. Аграрыі вельмі дакладна ўстанавілі, як дабратворна ўзьдзейнічае Страх на вэгетацыю расьлінаў, асабліва такіх як кукуруза і бульба. Палітолягі вывелі залежнасьць палітыкі Валадара ад сакральнага ўплыву Страху. Было пераканаўча даказана, што ўсе пераможныя акцыі ва ўнутранай і зьнешняй палітыцы цесна ўвязваліся ім зь інфэрнальным выпраменьваньнем Страху. Аднак жа сакрэт палягаў у тым, што сэнс тае інфэрнальнасьці быў даступны толькі Валадару, у якога меўся на тое маленькі чорны сакваяжык. У краіне знайшлі шырокае разьвіцьцё рознага кшталту навукі — парапсыхалёгія, кабалістыка і асабліва — астралёгія. Гэтая апошняя першай вывучыла астральную прыроду Страху і пачала рабіць самыя падрабязныя прагнозы ва ўсіх галінах жыцьця. Прагнозы былі заўжды спрыяльныя для краіны і асабліва для яе Валадара, якому наканавана было валадарыць сорак саракоў гадоў. Валадар быў задаволены і прызначыў Астролягу прэзыдэнтам Акадэміі паранавук, якая ў той год была адчынена. Першым актам Акадэміі стала распрацоўка новай канстытуцыі — Канстытуцыі Вялікага Страху, якую прынялі ў 996 годзе.

Але каб пачуцьцё страху перамагло ў масах канчаткова, трэба было выкараніць антыномнае пачуцьцё. І ў краіне быў прыняты новы крымінальны кодэкс аб адказнасьці грамадзянаў за ненарматыўныя паводзіны — сьмех, усьмешку, беспадстаўныя жарты. А таксама за ганебныя праявы адвагі. За адвагу ў абароне таварыша ад зьвяроў давалі тры гады турмы, ад жонкі — пяць гадоў. Але асаблівая кара прызначалася тым, хто адважваўся бараніць каго б там ні было ад замаху ўлады. Такія падлягалі пажыцьцёваму зьняволеньню. За абразу Яго Вялікасьці Страху, вядома ж, належала сьмяротная кара.

Натуральна, ня ўсё ішло гладка, часам у вялікай краіне ўзьнікалі непаслушэнствы і нават ерасі. У сярэдзіне стагодзьдзя ледзьве ня стаўся раскол. Гэта калі пэўная частка сьвятароў запрапанавала пашырыць ідэю страху і на адносіны да свойскай жывёлы. Каб шчанюкоў, ягнят, жарабят выхоўваць, жорстка караючы, у атмасфэры жывёльнага страху. Але тады аказалася, што ў гэткай атмасфэры козы, аслы ды сабакі або здыхаюць, або ўцякаюць у цёмны лес, дзе іх цяжка знайсьці. Мусіць, і праўда, жывёла — не чалавек, яе не перавыхаваеш страхам. Гаспадары і цэлыя гаспадаркі трывалі страты, некаторыя правінцыі нават спазналі голад. Гэта патрабавала ад вярхоўнай улады радыкальных мераў. У правінцыю Страх-Пут выехаў валадар Страхалюд XII зь вялікім аддзелам войска. Ён жа павёз з сабою і Страх. Страх везьлі на багата ўбранай калясьніцы, у якую было запрэжана 12 чорных коней пад залатымі накідкамі. І пасьля таго як бунтаўнікі былі абкружаныя войскам і перад імі вынесьлі Страх, тыя капітулявалі. Страхалюд XII вярнуўся ў сталі-

*Працяг на старонцы 14*



# ГОЛАЯ МАРАЛЬ

*Таіса Бондар, «Блаславёньне Марыі». — «Полымя», 10–11/98*

*Этыка — гэта эстэтыка будучага.*

*Жан-Люк Гадар*

Твор «Блаславёньне Марыі» напісаны ў жанры рамана-містэрыі — гэта адмысловая адзнака ецца напачатку. Звычайна акцэнтаваньне жанравай разнавіднасьці дае аўтару магчымасьць дадаткова ўзьдзейнічаць на чытацкае ўспрыманьне тэксту. Таму зьяўленьне твору з такім паднайменьнем сьведчыць пра пэўную адвагу, а можа, і выклік пісьменьніцы, бо ў апошнія паўстагодзьдзя творцы адзін за адным робяць культавыя самагубствы ў гонар чытача.

Раман пачынаецца з таго, як галоўная гераіня, пісьменьніца Анэля Багінская, ратуючы малую дзяўчынку, трапляе ў аўтакатастрофу. Гэты выпадак вымушае яе пераасэнсаваць сваё жыцьцё ды ўвесь навакольны сьвет, што прыводзіць яе да наступнай думкі: «людзі забыліся, што яны людзі». Ейны былы муж Даніла, вядома ж, п'е, а ў мінулым у іх, як заўжды, загубленае ненароджанае дзіцё; дык вось Даніла гэтаксама пакутуе ад усеагульнай бездухоўнасьці і свайго загубленага таленту ў прыватнасьці, і ўрэшце скончае самагубствам. Няцяжка здагадацца, што ўсе гэтыя падзеі прыводзяць Анэлю да Бога.

Побач з рэальнымі (сучаснымі) падзеямі разьвіваецца гісторыя Марыі Магдалены, пра якую галоўная гераіня напісала раман «Блудніца». З таго, што Анэля пэўным чынам атаясамлівае сябе з гэтай асобай, пабудова рамана можа ўспрымацца і як «тэкст ў тэксьце» і як два роўназначныя, паралельныя тэксты. Гэткая кампазыцыя адразу выклікае ў памяці «Майстра і Маргарыту» Булгакава і айтматаўскую «Плаху». Дарэчы, у тэксьце ёсьць непасрэдныя паралелі зь першым творам. Так, слаўтае «рукапісы не гараць» у варыянце «Апакаліпсіс Таісы Бондар» гучыць як «зробленае застаецца». Як бачым, маральна-этычныя прэтэнзіі аўтаркі разыходзяцца з мастацкім выкананьнем.

Цяга да вялікай літаратуры гэтым не абмяжоўваецца. Даніла ўяўляе сабой вылегчаны варыянт Івана Карамазава, а другі разьдзел рамана — гэта проста «Дастаеўскі для пачаткоўцаў». Увогуле, ужо пасьля прачытаньня прыблізна трэцяй часткі тэксту ўзьнікае цьвёрдае перакананьне, што аўтарка задумвала гэты твор як пакліканы ілюстраваць ілюзорную славянскаправаслаўную мэнтальнасьць, хаця насамрэч муляжнасьцю вобразаў, прадказальнасьцю падзеяў і схематычнасьцю кампазыцыі раман нагадвае хутчэй амэрыканскія коміксы.

Нікому ня прыйдзе ў галаву аспрэчваць сьвятую хрысьціянскую ідэю, на якой паўстала і наша культура. Але дэкляраваная маральнасьць, наўмысная этычнасьць ідэі рамана выклікаюць насьцярожанасьць і недавер. Гістэрычная, бажавольная натура галоўных герояў, можа, і адпавядае вобразу «бож'іх людзей», але выглядае фальшывай ці нават сфальшаванай.

Ненатуральнасьць прасякае літаральна кожны радок. Стылістыка фрагмэнтаў, якія апяваюць Марыю з Магдалы, больш дасканалая, яркая, можа, крыху груваcтская, але вельмі цікавая. З другога боку, шчырасьць гэтых пэрыядаў можа быць патлумачаная яшчэ й пэўнай экзатычнасьцю тэматыкі, што аўтарка, дарэчы, старанна падкрэсьлівае, дэманструючы веданьне «мясцовых рэаліяў». Яшчэ Борхес, спасылаючыся на Гібона, пісаў пра тое, што Магамет быў арабам і ведаў, што можна заставацца ім, ня седзячы на вярблюдзе; а вось розныя турысты, фальсыфікатары будуць якраз акцэнтаваць так званы мясцовы каларыт, то бок тых жа вярблюдаў. Дарэчы, хранатоп «рэальных» падзеяў рамана вельмі размыты і значна саступае «паралельнаму» тэксту. Больш за ўсё гэта тычыцца тапанімікі.

Асабліва дзіўнымі падаюцца дыялёгі (дарэчы, у кіно зараз модна мець асобнага аўтара дыялёгаў. Добрая практыка). У іх абсалютна адсутнічае размоўная дынамічнасьць і ствараецца ўражаньне, нібыта героі разважаюць услых. Хаця, можа, аўтарка гэтага і дабівалася. Вобразы Анэлі і Данілы непраніцальныя ня толькі для чытача. Гэтыя героі дбаюць пра ўсясьветную духоўнасьць, а ў рамане зьяўляецца толькі адзін іменаваны пэрсанаж — Фёдараўна (напэўна, павінна сымбалізаваць народ). Астатнія застаюцца натоўпам як для герояў, так, напэўна, і для аўтаркі. Саманадзейнасьць уражвае.

Банальныя сюжэты — заўсёды выпрабаваньне майстэрства пісьменьніка. Наўрад ці аўтарцы раману «Блаславёньне Марыі» трэ было на гэта асьмельвацца. Добра, калі толькі цяжар ідэі не дазволіў рэалізаваць амаль ніводнаму з заяўленых фармальных прыёмаў, а аголеная мараль — штука інтымная, часам аж да непрыстойнасьці.

**Іза Беруць**

# Мікола Зэраў

### НАЎЗІКАЯ

*...ніжна Навсікая*
*Струнка дочка феацького царя.*

*М. Рыльскі*

Феацкі квеце, сэрца Наўзікая,
Як промень сонца на пяску марскім!
Перад табою ўбогі пілігрым
І мора пурпуровае бяз краю.

Твой царскі жэст склікае ўмомант зграю
Рабынь, працятых пострахам нямым,
Звыроды й пекнаты праменны німб
Па-над ілбом, яшчэ дзіцячым, зьзяе.

Стаіць зьбянтэжаны бадзяга Адысэй,
Пад чарамі брывоў і доўгіх вей
Забыць гатовы безьмеж мук і гора:

Гаючая, жывая, як раса,
Ружовым пляскам Элінскага мора
Яму сьмяецца радасна Краса.

15/IX 1922

### ЛАТАФАГІ

*Адысэя, IX, 82-104*

З-пад Трои і крывавага туману,
Ад чорных дзён зацятае вайны
Цар Адысэй прыгнаў свае чаўны
На плёсы сонныя ціхмянага ліману.

І там наш гурт зрадзелы, горам гнаны,
Сустрэлі латафагі; сакаўны
Ліст лотаса далі гасьцям яны,
Спажытак нам салодкі і нязнаны.

І елі мы, і забывалі дым,
Сям'ю і род свой, у краю чужым
Да скону ласыя так жыць на дармавіне.

Ды мудры цар ня даў загінуць нам
І сіламоц нас павярнуў айчыне —
Ў навуку іншым людзям і вякам.

2/5 1926

### ЛЕСТРЫГОНЫ

*Адысэя, X, 80-134*

«Тут, цару, дзікі край нясытых лестрыгонаў
Ды іхных служак, што авечак сьцерагуць.
Які закляты шлях, якая каламуць
Цябе занесьлі ў кут нядолі ды праклёнаў?

Ты кажаш: Паліфем!.. Нашчадак Пасяйдонаў,
Ён знаў агонь, а тут — сырое мяса рвуць;
Неўтаймаваны іхны шал. Не прызнаюць
Яны сьвятых гасьціннасьці законаў.

Ня йдзі, застанься тут. Між скалаў ёсьць адмель.
Я ўночы спраўлю твой ставёслы карабель
У край народаў хлебаедных і лагодных.

Сам застануся тут у горы ды бядзе,
Я толькі думкаю да скал памкнуся родных,
Я толькі чайкаю... з табою... па вадзе!»

1926

### ΚΑΠΝΟΣ ΤΗΣ ΓΑΙΗΣ

*Адысэя, І, 44-61*

Шчасьліва, карабелю цемнабокі!
Плыві бязь бед пад цёплы небасхіл —
Да Швабскіх гор, смарагдавых Антыл,
Ў Кабул ці на радзіму пахкай моккі.

Хай доўга не трымаюць цябе докі,
І хай рамантыка тваіх вятрыл
Набудзе хуткасьць чарадзейных брыл,
Якія кідаў волат аднавокі.

Ды ці згадаеш ты ў чужых краях
Той старасьвецкі, паржавелы дах,
Дзе вогнішча тваё каліс палала?

І ці прамовіш з пачуцьцём глухім:
Там цаліною йдуць нарогі і рала,
Там узьнімаецца Ітакі сіні дым?

22/10 1931

### ВЭРГІЛІ

Мужык із Мантуі, павольны і смуглявы,
Ускалыханы зь першых дзён сялом,
Уславіў кій і меч, і медзяны шалом,
І ўзьняўся да вяршынь недасягальнай славы.

Бо скрозь агонь і дым усобіцы іржавы
Пабачыў лепшы век і прасьпяваў псалом,
Як спачывае сьвет пад цэзарскім арлом
У злагадным ярме бяссьмертнае дзяржавы.

Той час мінуў — і Рым, і грознага арла
Рука гісторыі да трун павалакла,
Дзе сьпяць усіх часоў ілюзіі й кароны.

Ды ён жыве, і звон Вэргілевых паэм
Дагэтуль сьніцца нам узрыдамі Дыдоны,
Бражджаньнем панцыраў і ўсплёскамі трырэм.

12/III 1933

**Пераклаў з украінскай Алег Мінкін**

**МІКОЛА ЗЭРАЎ** (1890-1937) — украінскі перакладчык, літаратуразнаўца, паэт. Перадусім вызначыўся сваімі выдатнымі перакладамі з рымскіх паэтаў — Вэргілія, Гарацыя, Тыбула, Авідыя, Марцыяла. Што тычыцца ўласнай (невялікай) паэтычнай спадчыны, дык Зэрава небеспадстаўна ў свой час называлі «кніжным паэтам» (сам сябе называў ён «бібліяфагам») — мусіць, за схільнасьць да ясных, клясычных формаў, да «кніжных» сюжэтаў, да плястычных вобразаў, маляўнічых апісаньняў. Цяпер Мікола Зэраў, пасьля доўгіх гадоў забыцьця, стаўся адным з самых знаных ва Ўкраіне паэтаў.

# Віктар Шніп

***

Незадаволены сабой, як вецер,
Якому нават цесна ў чыстым полі,
Які, сумуючы аб белым сьвеце,
Ня будзе ведаць белы сьвет ніколі,
Бо ён радзіўся тут і тут сканае,
Як пыльная дарога палявая,
Што мёртваю травою зарастае.
Незадаволены сабой і сьветам
Іду дамоў, нібы ў палон здаюся
Спакою, што паэтамі апеты,
Спакою, быццам бы зьмяі баюся,
Але іду дамоў, нібы ўцякаю,
Нібыта грэшнік, што прагнаны з раю...
Іду дамоў і дзе мой дом — ня знаю.
Іду дамоў, як Біблію чытаю.

***

Тваё жыцьцё — туман па-над дарогай,
Якая зарасла даўно травой, —
Тут не цікавіць болей анікога
Апроч хмурын, што плачуць над табой.
І гэты дождж ты любіш за самоту,
Што сееца на травы і кусты,
Змываючы зь лістоты пазалоту
Да чорнай, як вугольле, чарнаты.
Ты зойдзеш да Яе папіць гарбаты
І будзеш ля Яе, як раб, стаяць,
Які заўсёды ў нечым вінаваты,
Якога можна за пятак прадаць.
Ды пойдзеш ты, каб болей не вярнуцца,
Па той дарозе, што даўно ў траве.
І зоркі зь неба ў росы перальюцца
І ў росах цень твой сьветла праплыве.
І будзе ўсё, як і было заўсёды,
Але захоча некалі й Яна
Твайго каханьня і тваёй самоты,
Нібы ў царкве царкоўнага віна...

***

Настрой такі, што ўсё няміла,
І шэры горад, як магіла,
Дзе мы, як прывіды, жывём.

І жоўты сьнег, і белы вецер,
І сонны, як хвароба, вечар
Душу апальваюць агнём.

Агонь жа не стушыць вадою,
Ён быццам крыж па-над царквою,
Якая ў памяці стаіць.

І я іду дамоў з работы,
І ўсьлед сьмяюцца ідыёты,
І сіл няма, каб іх любіць.

# БАЙКІ ЖЫЦЬЦЯ. СТРАХ

*Працяг са старонкі 13*

цу пераможцам і быў урачыста сустрэты ўдзячным народам. Канечне, грамадзяне шанавалі Валадара, яго розум і сілу, але ж разумелі, што сваёй перамогай ён найперш абавязаны Страху.

Яшчэ адну вялікую перамогу здабыла дзяржава ў яе застарэлым канфлікце з суседзямі — дурнымі сьмехавітамі, рэлігіяй якіх была весялосьць. Страхавіты хутка заваявалі гэтую невялікую, кепска арганізаваную краіну. Але неўзабаве было заўважана, што пераможаныя ня надта з таго турбуюцца, бо жывуць нашмат лепш за пераможцаў. І грошай у іх больш, і хлеба, і жывёлы. Яны нават п'юць віно, што было зусім незразумела. І ніхто ў іх нікога не прымушае набываць зь дзяцінства спалоханы выраз твару, кожны сьмяецца, колькі захоча. Нават мае права голасна рагатаць.

Не заўсёды ў жыцьці ўсё адбываецца, як хочацца, нават Валадару. Каб Страхалюд XII ведаў гэта, ён бы не заваёўваў тую бязладную краіну. Сталася так, што амаральныя ідэі пераможаных сьмехавітаў сталі пранікаць у краіну страхавітаў — сьпярша праз войска, а затым — праз гандлёвыя сувязі. Іх падхапіла найперш няўстойлівая частка грамадзтва, — недастаткова выхаваная ў страху моладзь. Раптам некаторыя зь яе ўпадабалі вясёлыя песьні суседзяў і нават пачалі іх сьпяваць. А тады ва ўжытак пайшло віно і тытунь, што ўвогуле было жахліва. І хоць на барацьбу з заганамі змабілізавалі ўсе сілы дзяржавы — ад войска да грамадзкіх памагатых — сексотаў, стукачоў, таптуноў — карысьці было мала. Нягледзячы на суды, затрыманьні, арышты і суровыя выракі, жахлівыя парушэньні прававернай маралі і этыкі не спыняліся. Патрабавалася яшчэ вышэй падняць ролю Страху, ягоных жыватворных ідэяў. Наблізіць іх да народу.

Тады Валадар краіны за кароткі тэрмін пабудаваў у сталіцы вялізны 50-сажневы ансамбаль, які завяршаўся ўгары мармуровым порцікам са зьмешчаным у ім пазалочаным гаршчэчкам Страху. У сонечны пагодны дзень ягоны выпраменьваньні можна было бачыць далёка за межамі Страхалюдыі. Былі ўстаноўленыя сто прэміяў музыкам, мастакам і пісьменьнікам, якія з найбольшай сілаю ўвасобяць у творах залаты воблік Страху. Ужо праз паўгоду роўна сто творцаў былі ганараваныя прэміямі, іх мармуровыя бюсты выставілі ўздоўж алеі гарадзкога парку культуры і страхалюдзтва. Мяжу зь сьмехавітамі абсталявалі дванаццацімэтровай жалезнай заслонай. Перасякаць яе мелі права толькі асабліва ўстойлівыя да сьмеху людзі, якім перад паездкай рабілі ін'екцыю сыроваткі суму. І тым ня менш, падрыўная ідэалёгія і яе матэрыяльная культура шырока пранікалі ў краіну суму і страху. Празь недагляд цэнзараў у друку зьявілася публікацыя аднаго эканаміста, нібыта вясёлы працаўнік болей прадукцыйны за сумнага, — гэткай ерасі ў краіне не было ўжо амаль два стагодзьдзі. Аўтара публікацыі, натуральна, выслалі за мяжу, дзе яго хутка забілі ягоныя ж аднадумцы. Некаторыя, праўда, казалі, што забойства было справай рук страхавітых спэцслужбаў. Але то быў варожы паклёп.

Валадар краіны Страхалюдыі вельмі ўстрывожыўся і ўсе страхавіцкія сілы кінуў на барацьбу з падрыўной ідэалёгіяй. Каб ідэя страху дзейнічала больш эфэктыўна, ён увёў сьмяротную кару нават за самы дробны амаральны ўчынак, калі той выклікаў сьмех. Злачынцаў стала звыш усялякай меры. Асабліва калі ў краіне пачаўся эканамічны спад, а затым крыза, і ня стала чаго есьці. Дайшло да таго, што аднойчы ў сьвяточны дзень на галоўнай плошчы сталіцы сабралася дэманстрацыя за права есьці. (Гэтыя нечуваныя раней прэтэнзіі на нейкія там правы так-



## Адам Глёбус

# СУАЙЧЫНЬНІКІ-4



**Скарынкіны**

Скарынкін-бацька вядомы спробаю перакласьці Дантэ на беларускую й напісаць паэму пра Францішка Скарыну. Скарынкін-сын піша вершыкі па-расейску і знакаміты праз згадку ў зацемках Леаніда Галубовіча, дзе названы **славянафілам**. Вось такія сем'і вядуцца ў літаратурных нетрах Меншчыны.

**Галубовіч**

Чытаеш Галубовічавы зацемкі й пачынаеш баяцца, што й сам пачнеш так пісаць усё пра ўсё бяз складу ды ладу. Кепска, Лёня. Але, чытаючы таго ж Леаніда Галубовіча, пераконваесься — можна, калі моцна пажадаеш, кінуць піць і весела пісаць пра рамантыку запояў. Добра, Лёня.

**Эльпер**

Кампазытар Яўген Эльпер, зь якім я напісаў песьню «Гары яно гарам, такое каханьне», зьехаў у Ерусалім. Гадоў з восем мы ня бачыліся. Калі пачалася валтузьня і спрэчкі на дзясятыя ўгодкі пасьля выбуху на Чарнобылі, згадаўся тэлефонны званок Эльпера: «Валодзя, мы з табою сягоньня дамовіліся сустрэцца. Тое, пра што я зараз скажу, вельмі сур'ёзна. Табе трэба добра памыцца з мылам, асабліва старанна памый валасы на галаве. А калі будзеш выходзіць, не забудзься надзець шапку». Эльпер паклаў слухаўку, а я падумаў: Жэнік звар'яцеў. На вуліцы сонца, ні хмурынкі. Якая шапка? Прыходжу да Эльпера, а той кажа: «Атамная станцыя выбухнула, а ты па двары бяз шапкі ходзіш». Менавіта так я даведаўся пра катастрофу ад чалавека, зь якім пісаў песьні пра каханьне.

**Лось**

Мастак і музыка Аляксандар Лось у свой час праславіўся тым, што разам зь Яўгеніяй Ліс адрадзіў старажытнабеларускі тэатар-батлейку. Толькі я распавяду пра іншае... У вузкім коле сяброў Алеся ведалі як вынаходніка геніяльнага апраўданьня сваіх учынкаў. «Я не раблю памылак, бо калі я нешта раблю, дык цалкам пераканаўны ў правільнасьці сваіх паводзінаў. Пасьля я магу прызнаць памылковасьць таго ці іншага ўчынку, але гэта ўжо іншы я, той, які выпраўляе хібы, а ня робіць іх». За гэтыя развагі Алеся Лася празвалі філёзафам Хлусманам.

**Вапа**

Палітык зь Беласточчыны Яўген Вапа аднойчы бессаромна спытаў: «Чаму вашая і, у прыватнасьці, твая літаратура, у адрозьненьне ад эўрапейскай, не абапіраецца на Біблію й антычную міталёгію?» Што ні кажы, пытаньне ставілася рубам. Давялося прызнаць, што пазбаўляючыся атэізму, я апынуўся не ў хрысьціянстве, а ў паганстве, каля пантэону зь Вялесамі, Перунамі, Русалкамі й Дамавікамі. Мне ўтульна сярод Дзвавікоў і Лесавікоў, сярод Хутоў і Кадукоў.

**Славамір Адамовіч**

Ёсьць шмат самых розных палітыкаў, чые выказваньні ў абарону беларускай справы й беларускай ідэі выклікаюць у мяне недавер. А вось акт пратэсту Славаміра Адамовіча, калі ён зашыў сабе рот, пераконвае ў шчырым адчаі беларускай душы. Гэты ўчынак яшчэ не асэнсаваны, не ацэнены. Самі сябе ня цэнім і ня любім... Пісаў Купала.

**Танк**

Максім Танк — беларускі паэт. Гэта бясспрэчна. А які, скажу табе, халодны сум у гэтай, здавалася б, станоўчай бясспрэчнасьці. На працягу ўсяго Танкавага жыцьця чытачы чакалі ад яго крыху іншага. Мудрасьці? Так. Вось зараз Танк скажа... Танк напіша... Танк выступіць... А ён сышоў, так і не сказаўшы самага істотнага — праўды пра самога сябе, праўды пра лёс Бацькаўшчыны. Максім Танк застаўся беларускім паэтам, якому дазвалялася расказваць анэкдоты Хрушчову й Брэжневу, і ня больш.

**Броўка**

Функцыянэр ад графаманіі, якому ў юнацтве лёс падараваў адзін лірычны вершык, Пятрусь Броўка і перад самым сконам крэмзаў радкі, што праслаўлялі савецкі лад жыцьця. Але сьмерць прыйшла, і чарговыя куплеты пра камунізм засталіся недапісаныя... Нашто чапаць мінулае, імхом парослае? Згінула, прапала, памерла... Сівы сухенькі дзядок у вялізных акулярах — такім я запомніў Броўку — быў найвялікшым майстрам дзяліць і перадзельваць матэрыяльныя даброты сярод членаў саюзу савецкіх пісьменьнікаў і супрацоўнікаў Акадэміі навук. Сёй-той, хто выхопліваў кавалкі з Броўкавай рукі, згадае вершык пра тое, як «пахне чабор» — маўляў, твор варты красавацца ў хрэстаматыях. Хоць чабаровы водар і бяз Бровак выдатны. Дагэтуль у школе прымушаюць вывучаць графаманію Пятра Ўсьцінавіча...

**Пташнікаў**

Да Івана Пташнікава я заўсёды ставіўся з павагаю. Пташнікаў належыць да майго любімага пакаленьня беларускіх літаратараў, так званага філялягічнага. Ён пачынаў разам з Быкавым, Караткевічам, Стральцовым. Дакладна заўважыў Леанід Галубовіч: талент Пташнікава недаацэнены. І дарэмна Някляеў кажа, што ў Пташнікава морда паліцая, непраўдзівая тое й абразьліва. На гэтым камплімэнты сканчваю. Аднойчы Іван Пташнікаў спытаўся: адкуль я даведаўся, што ў майго героя пад белай шапкаю зь мяккім брылём — лысіна дый яшчэ з заграбонам. Я па маладосьці сумеўся й выкрасьліў апісаньне. А сёньня адкажу так: я даведаўся пра заграбон з той самай крыніцы, адкуль Гогаль дазнаўся, што прырода рабіла Сабакевіча вялікай сякерай.

**Галубовіч і Сыс**

З запойнага п'яніцы й паэта Леанід Галубовіч ператварыўся ў добрасумленнага літаратурнага чыноўніка. Штогод улетку ён езьдзіць на вакацыі ў сваю вёсачку Вароніна, дзе некалі соладка пілося й добра пісалася. Цяпер лепшае, што выходзіць з-пад Галубовічава пяра — гэта ўспаміны пра час, калі ён быў выдатным паэтам. Чытаючы Галубовіча, спрабую ўявіць Сыса, які ажаніўся, кінуў жлукціць гарэлку, уладкаваўся на працу, выхоўвае дачку й начамі за кубачкам кавы піша мэмуары пра рэвалюцыйную маладосьць, пра змаганьне за беларушчыну. Не атрымліваецца. Мроіцца іншае. П'яны Толік памірае пад плотам, а плот зусім канкрэтны — каля бровару на вуліцы Максіма Багдановіча.

**Харэўскі**

У «Нашай Ніве» Сяргей Харэўскі робіць спробу пераглядзець гісторыю беларускага мастацтва XX стагодзьдзя. А ў яго не атрымліваецца. Ён выбраў сто твораў сотні розных мастакоў. І кожны другі твор, як і кожны другі мастак, да ўласна беларускага мастацтва мае вельмі сумнеўнае дачыненьне. Калі б расеец Рэпін намаляваў яшчэ сотню беларусаў, усё адно ня стаў бы беларускім мастаком, як не назавеш Някрасава нашым паэтам, хоць і ён стварыў партрэт беларускага мужыка з каўтуном. Помнікі Леніну й Перамозе ў Менску і Кацярыне II у Вільні — прыклады з гісторыі таталітарнага грамадзтва і імпэрыі, а ніяк не мастацтва. Шагал, Малевіч, Суцін і Стрэмінскі вельмі зьдзівіліся б, калі б даведаліся, што яны беларускія мастакі. Бялыніцкі-Біруля сам адмовіўся ад званьня заслужанага дзеяча беларускай культуры пад час вайны, бо заслужанаму Расейскай Фэдэрацыі давалі лепшы паёк. Напісаўшы пра мноства твораў, Харэўскі не адказаў на самае асноўнае пытаньне. Які твор мастацтва можа паказаць Беларусь XX стагодзьдзя? Каб такое пытаньне задалі мне як літаратару, я назваў бы кнігу Максіма Багдановіча «Вянок». Пытаньне пра твор мастацтва застаецца за Харэўскім.



сама былі кантрабандай увезеныя з краіны сьмехавітаў). Валадар абкружыў войскам плошчу і перад сьвятыняй Страху наладзіў дэманстрантам крывавую лазьню. Былі сотні забітых і яшчэ болей параненых. Улады той лік перабольшылі ў дзясяткі разоў — у адпаведнасьці зь сьвятой і непарушнай ідэяй Страху. І падзейнічала. Усе ўбачылі, што Страх па-ранейшаму мае сілу і не абыякую. Пачаліся размовы, што ня варта супраць яго выступаць, што перамогі ўсё роўна ня будзе, што трэба шукаць кансэнсус з Валадаром. Страх непераможны, бо ў ім ёсьць нейкая неспазнаная сатанінская сіла. Гэта ўвогуле было падобна на праўду. І ўсё адно людзі хацелі есьці, а есьці не было чаго. Даведзеныя да адчаю, яны ўжо нікога ў краіне не баяліся — ні спэцфармаваньняў, ні тайнай паліцыі, ні Валадара, — яны толькі не маглі перамагчы ў сабе прыроджанае, геннае пачуцьцё Страху. Гэта, між іншым, выдатна разумеў і Валадар, які старанна ўдасканальваў сьвятыню. Група ляўрэатаў-інжынэраў спраектавала на плошчы цэлы інжынэрна-тэхнічны комплекс вакол п'едэсталу Страху. Порцік наверсе пакрылі бранявым каўпаком, наладзілі лазэрнае забесьпячэньне зь нябачным, але дужа эфэктыўным выпраменьваньнем — у інтарэсах бясьпекі. У космас запусьцілі адмысловы спадарожнік Страху, які дзень і ноч кружыў над плошчай, адганяючы ад яе нават вераб'ёў; тыя зь іх, што пераскалі па-дурному мяжу, адразу ж мёртвымі падалі на брук. У сутарэньнях на глыбіні ста і больш мэтраў сядзелі дзяжурныя апэратары, — утыкнуўшыся ў свае экраны, яны пільнавалі комплекс ад магчымай дывэрсіі.

І тады ў горадзе паявіўся Мірон.

Гэта быў малады хлапец родам з самай галоднай правінцыі, ён валодаў неверагоднымі здольнасьцямі. Вырасшы ў лесе, мог узьлезьці на самае высокае дрэва, нават на голы ствол пальмы. Як ён тое рабіў, ніхто ніколі ня бачыў. Звычайна яго заўважалі, калі ён ужо быў наверсе і шпурляў адтуль какосавыя арэхі, якія вясёла падбірала дзятва. Характарам ён быў сваволянік.

І вось аднойчы па горадзе панесьліся чуткі, што на плошчы ў паўдзён адбудзецца штосьці неверагоднае. Людзі зранку пачалі зьбірацца да плошчы; блізка да ансамблю Страху не пушчала ахова. Здаля людзі назіралі, любаваліся зіхаценьнем залатога порціку, у якім зьзяў непераможны, сьвятарны Страх. Улады, вядома ж, не гублялі пільнасьці, узмацнілі ахову. Сотня закамуфляваных у жабскі колер «гарылаў» сачыла за публікай. Перад экранамі ў сутарэньнях гарбаціліся дзяжурныя. У дывэрсію ці сабатаж мала хто верыў — гісторыя краіны яшчэ ня мела выпадку, каб нехта пераадолеў вялікі татальны Страх або самохаць наблізіўся да яго.

Але во ў паўдзён, як гадзіньнік на крэпасьці адзваніў 12 разоў, усе зь перавулкаў, вуліц, дахаў і вокнаў згледзелі, што ля залатога порціку паявіўся чалавек. У сьветлай сарочцы, бяз шапкі, стаіць і штосьці махае ўсім уніз. І нават крычыць штось — зусім, аднак, ня сумнае.

Людзі не разумелі, што адбываецца. Не разумела ахова, якая замітусілася ў паніцы. З завулкаў, ад сквэру і палацу Валадара на злыдня нацэлілі рулі дывізіёны «Градаў», «Тунгузак», сотні руляў АК. Але ніхто не адважваўся пульнуць, бо там жа была сьвятыня — Страх. А хлопец тым часам штосьці там пакалупаўся, нахіліўся, і ўсе ўбачылі, як зьверху, куляючыся, бы какосавы арэх, ляціць уніз знаёмы кожнаму са школьных падручнікаў гаршчэчак Страху. Дапяўшы бруку, той з грамавым ляскатам разьбіўся на дробныя аскялёпкі.

Пасьля сэкундавага палярушу ўсе, хто быў блізка, кінуліся да тых аскялёпкаў — ці ацалеў хоць Страх? Ды дзе там — не аказалася ніякага Страху. Сярод груды аскепкаў ляжала на камянях жменька нейкай рудой зямлі — і ўсё. Калі, можа, гэта і быў некалі Страх, дык яго даўно стачылі мурашкі. А можа, ніколі й не было ніякага страху. Першы, ўмомант звар'яцеўшы, гучна зарагатаў, бы стары мул, начальнік валадарскай аховы, гарылападобны палкоўнік. За ім зьдзічэла, па-вар'яцку заіржалі яго падначаленыя — падпалкоўнікі, маёры, капітаны, лейтэнанты і прапаршчыкі, тайныя і яўныя сексоты, стукачы і таптуны, ахоўнікі. У дзікім істэрычным рогаце зайшоўся ўвесь зьблытаны, перамяшаны, шматслоўны галодны люд. Людзі сьмяяліся, абдымаліся, рагаталі, сьцяміўшы, што доўгае валадарства страху скончылася.

Да пачатку новага валадарства — Сьмеху — заставалася небагата часу. Ды людзі ня ведалі пра тое.



